# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 6 (10) Ліпень 1929 г. № 6 (10)

**З Ь М Е С Т**



# Больш увагі вылучэнству і вылучэнцам.

Кастрычнікавая рэвалюцыя заклікала міліённыя масы рабочых і сялян да непасрэднага ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве. Дзесяткі тысяч пралетарыяў, батракоў, беднякоў і актывістаў, сераднякоў-сялян як партыйных так, і беспартыйных, сталі на чале цэнтральнага і мясцовага савецкага кіраўнічага апарату. Працоўныя масы пад кіраўніцтвам Ленінскае Камуністычнае Партыі кожны дзень, кожны год вылучалі і пасылалі новыя сілы працаўнікоў у саветы, выканкомы і савецкі апарат наогул. Інакш быць не магло і ня можа, бо савецкая дзяржаўная сыстэма ня мысьліма без прыцягненьня да справы дзяржаўнага і грамадзкага кіраўніцтва шырокіх рабочых і сялянскіх мас. У свой час пасьля кастрычнікавай рэвалюцыі прыходзілася ствараць савецкі апарат стыхійна, бо ў той час аб строгай арганізацыйнай плянавасьці і падборы работнікаў гаварыць ня прыходзілася. Толькі з далейшым ростам і ўзмацненьнем Савецкай улады мы змаглі паступова палепшаць і ўдасканальваць савецкі апарат, уліваючы ў яго новыя жывыя пралетарскія сілы для замены сабатуючага астатку горшага бюракратычнага старога чыноўніцтва. У 1922 годзе на Чацьвертым Кангрэсе Камінтэрну Ўладзімір Ільліч сказаў: „Дзяржаўны апарат вельмі часта вядзе работу супроць нас... Нам прыдзецца працаваць на працягу некалькіх гадоў, каб удасканаліць апарат, замяніць яго і прыцягнуць новыя сілы“. Гэтая задача аб удасканаленьні дзяржаўнага апарату, пастаўленая Леніным перад краінай саветаў, на працягу апошніх гадоў вырашалася Партыяй і Савецкай уладай са ўсёй уважлівасьцю і рашучасьцю, а таму ў сэнсе палепшаньня дзяржаўнага апарату, у параўнаньні з мінулым, *мы маем зараз вялізарнейшыя дасягненьні.*

Шляхам разгортваньня савецкае пралетарскае дэмакратыі, шляхам ажыўленьня масавай працы саветаў, шляхам вылучэньня ў савецкі апарат новых, сьвежых сіл, непасрэдна зьвязаных з вытворчасьцю, з масамі рабочых і бяднейшага сялянства, мы паляпшалі і канчаткова аздаравім савецкі апарат.

Да палепшаньня, да поўнага аздараўленьня савецкага апарату мы маем самы верны сродак—*вылучэньне новых і новых кадраў* гарадзкіх рабочых і работніц, а таксама актывістаў і актывістак вёскі з бяднейшага сялянства і батракоў *на кіраўнічыя пасады*, на працу ў савецкім апараце. Яшчэ больш, яшчэ шырэй і глыбей трэба разгарнуць ажыцьцяўленьне лёзунгу нашай партыі—крытыку і самакрытыку. Весьці барацьбу з бюракратызмам да канца, да поўнай перамогі *магчыма толькі тады, калі ўсё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у кіраўніцтве краінай,*—так сказаў у свой час Ленін.

У гэтым сэнсе перавыбары саветаў зьяўляюцца найлепшым сродкам. Перавыбары саветаў у гэту кампанію са ўсёй сілай працоўных мас *моцна ўдарылі* па бюракратызму, нядбайству і злоўжываньням. Нядарма склад саветаў абнавіўся да сямідзесяці процантаў, а таксама значна абнавіліся кіраўнічыя кадры саветаў і выканкомаў за кошт партыйцаў, камсамольцаў і лепшых беспартыйных рабочых і сялян. Шляхам перавыбараў мы маем шырокія кадры новых вылучэнцаў на сталай працы ў саветах і выканаўчых камітэтах.

На апошнім дзевятым Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў выбрана ў ЦВК больш ста чалавек рабочых і работніц, сялян і сялянак з вытворчасьці; з іх пяць таварышоў увайшлі ў склад Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

Не ў далёкай будучыні частка выбраных таварышоў у ЦВК *будуць назначаны на сталую працу* ў цэнтральныя ўстановы. Быўшыя вылучэнцы, члены ЦВК, якія ўжо даволі падрыхтаваны, часткай застануцца на далейшай кіраўнічай працы ў цэнтральным апараце, частка з іх перайдуць на самастойную акруговую ці раённую працу, а на зьмену ім прыдуць новыя таварышы, якія будуць працаваць і вучыцца кіраваць дзяржавай. Ужо пасьля зьезду саветаў Прэзыдыум ЦВК вызначыў двух таварышоў: актывіста-селяніна

т. Дубаўцова (члена Прэзыдыуму ЦВК)—Загадчыкам Прыёмнай ЦВК і тав. Анішчанка, сялянку-бяднячку з Мазырскай акругі (канд. у члены Прэзыдыуму ЦВК) для працы ў Прыёмнай ЦВК, якія і прыступілі ўжо да выкананьня гэтай вельмі адказнай працы.

Ёсьць шэраг дырэктыў і ўказаньняў па лініі партыйнай і савецкай аб тым, як трэба весьці працу з вылучэнцамі, як найлепшым чынам па-таварыску выхоўваць вылучэнцаў да самастойнай адказнай працы, як падрыхтоўваць новыя кадры з рабочых і сялян для вылучэнства. Усе гэтыя дырэктывы *трэба заўсёды ведаць і памятаць* усяму кіраўнічаму складу савецкага апарату і асабліва зараз калі мы праводзім чыстку савецкага апарату, частцы якога патрэбна належная замена.

Бюро ЦК КП(б)Б яшчэ ў мінулым годзе ў сваёй пастанове аб вылучэнстве папярэджвала, што ў сувязі з рацыяналізацыяй дзяржаўчага апарату, яго скарачэньнем, у некаторай частцы савецкіх устаноў магчыма будзе аказана супраціўленьне ў справе залучэньня ў гэтыя апараты вылучэнцаў, што можа прывесьці да затрыманьня тэмпу вылучэнства. Гэта папярэджаньне апраўдалася на справе. Мы маем цэлы шэраг выпадкаў дрэнных адносін да вылучэнцаў і вылучэнства як на мясцох, так і ў цэнтры. Наша задача ў справе палепшаньня вылучэнства ў тым, каб шляхам шырокай, сьмелай крытыкі і самакрытыкі выкрыць і зьнішчыць усе недахопы і шкодныя зьявішчы, якія перашкаджаюць нармальнаму аздараўленьню дзяржаўнага апарату, шляхам сталага сыстэматычнага вылучэньня рабочых і сялян.

Агульным недахопам у вылучэнстве зьяўляецца *недастатковасьць плянавасьці* ў гэтай справе. Вылучэнства ажыцьцяўляецца пераважна ў часе перавыбарчай кампаніі, пры гэтым часта без належнай падрыхтоўкі. Нашы грамадзкія арганізацыі яшчэ недастаткова займаюцца сыстэматычнай падрыхтоўкай кадраў для вылучэньня. Таму бываюць факты *выпадковага вылучэньня* кандыдатур у саветы і нават у вышэйшыя выканаўчыя камітэты, што падрывае ў вачох працоўных мас самую ідэю вылучэнства.

Ня меншым недахопам зьяўляюцца тыя факты, калі вылучэнец, папаўшы на сталую працу, *сустракае фармальна-бюрократычныя адносіны* з боку тэхнічнага апарату і нават кіраўнікоў, асабліва ў першыя дні працы вылучэнца, калі яму патрэбна на кожным кроку яго працы таварыская дзелавая дапамога. Часта і ў далейшай працы вылучэнцу недастаткова ўдзяляецца ўвага з боку кіраўнікоў; з боку-ж вылучэнцаў не заўсёды хапае сьмеласьці, каб у свой час зьвярнуцца да кіраўніка, які часта сам вельмі заняты справамі. Зразумела, што ў гэткіх выпадках узаемаадносіны залежаць больш ад кіраўніка ўстановы, чымся ад вылучэнца.

Падрыхтоўка вылучэнца да самастойнай працы *павінна быць важнейшай задачай* для кіраўніка і ўсяго апарату ўстановы. Мы ведаем, што нашы вылучэнцы—рабочыя ад варштату, бяднейшыя сяляне вёскі вельмі малапісьменныя, але-ж ім трэба навучыцца працаваць, навучыцца кіраваць рознымі галінамі сацыялістычнага будаўніцтва. *Таму ўвесь вопыт, які набыты намі за гады вялікага будаўніцтва, мы павінны перадаваць у штодзённай працы нашым вылучэнцам—нашай зьмене.*

Разам з гэтым трэба прыняць усе крокі да падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі шырокіх кадраў нізавых працаўнікоў саветаў і грамадзкіх арганізацый. Курсы, якія праводзяцца ў цэнтры і на мясцох, трэба арганізаваць так, каб яна дала найлепшыя вынікі; неабходна цалкам выкарыстаць „завочныя курсы" па савецкаму будаўніцтву.

Сёлета па прыкладу мінулага году арганізуюцца цэнтральныя курсы для жанчын, сталых працаўнікоў сельсаветаў, а таксама курсы для працаўнікоў нізавых нацсаветаў. Гэтыя курсы трэба ўкамплектаваць, выходзячы з таго, што пасылаемыя на курсы работнікі сельсаветаў *павінны рыхтавацца, як вылучэнцы, для сталай адказнай* савецкай працы. У апошнюю перавыбарчую кампанію працоўная жанчына заняла значнае месца ў саветах. У той час, калі ў мінулую кампанію было выбрана ў саветы жанчын 2.316 чал., зараз мы маем 9.832 чал. жанчын у саветах. Сотні новых жанчын вылучаны на сталую працу ў саветах і выканкомах.

У складзе саветаў мы маем у два з паловай разы больш, чым у мінулую кампанію, батракоў і с.-г. рабочых, значна павысіўся процант беднаты ў саветах.

Сярод гэтай масы нашага савецкага актыву ёсьць шмат малапісьменных і зусім няпісьменных. Наша бліжэйшая і важнейшая задача—*зьліквідаваць няпісьменнасьць* сярод выбраных у саветы наогул і асабліва сярод жанчын, батракоў і беднаты.

Такім чынам, дзеля таго, каб палепшыць справу вылучэнства, каб найлепш скарыстаць вылучэнцаў, нам трэба: па-першае, *больш плянавасьці* і рэгулярнасьці ў справе вылучэнства, *больш увагі* да яго, прыдаць вылучэнству *масавы* характар; па-другое, дабіцца нармальнай *падрыхтоўкі і абставін* у працы вылучэнцаў і, па-трэцяе, неабходна ўстанавіць (і не дапускаць разрыву) *сыстэматычную сувязь вылучэнцаў з масамі* шляхам выездаў на месцы і рэгулярнай іх справаздачнасьці перад выбаршчыкамі.

Зараз за вылучэнцамі слова для нашага друку аб тым, як яны працуюць, як іх выхоўваюць, як да іх адносяцца ў нашых савецкіх установах.

А. Хацкевіч.

**Каб палепшыць справу вылучэнства, каб найлепш скарыстаць вылучэнцаў, нам трэба:**

**Па-першае, больш плянавасьці і рэгулярнасьці ў справе вылучэнства; па-другое, дабіцца нармальнай падрыхтоўкі і абставін у працы вылучэнцаў; і, па-трэцяе, неабходна ўстанавіць сыстэматычную сувязь вылучэнцаў з масамі шляхам выездаў на месцы і рэгулярнай іх справаздачнасьці перад выбаршчыкамі.**

# АБ ПРАЭКЦЕ НОВАГА ПАЛАЖЭНЬНЯ ПРА СЕЛЬСКІЯ САВЕТЫ.

У сучасны момант перад савецкай уладай стаяць вялікія задачы па сацыялістычнай перабудове вёскі. Гэтыя задачы канкрэтна вызначаны ў зацьверджанай пяцігодцы: падняцьце ўраджайнасьці, пераход на шматпольле, пашырэньне калектыўных форм землякарыстаньня, зьмена мэтадаў апрацоўкі зямлі і г. д. Шэраг вельмі важных задач стаіць у галіне культурна-асьветнай працы на вёсцы, кааператаваньні вёскі, арганізацыі груп беднаты і інш. Але пасьпяховае выкананьне пастаўленых задач залежыць ад правільнай арганізацыі мясцовай улады—сельскіх саветаў. Іх арганізацыя, іх правы і абавязкі павінны забясьпечыць дасягненьне паказаных вышэй мэт. З гэтае прычыны набывае вельмі вялікае значэньне пытаньне аб адным з асноўных для вёскі законе—*палажэньні аб сельскіх саветах.* Гэта палажэньне павінна зрабіць сельскі савет сапраўдным гаспадаром на яго тэрыторыі і ўтварыць сельскаму савету неабходныя ўмовы для прадукцыйнай працы.

Зараз сельскія саветы дзейнічаюць на аснове палажэньня пра іх, якое выдадзена ў 1925 годзе. З таго часу ў становішчы сельскіх саветаў адбыліся значныя зьмены. Правы сельскіх саветаў пашыраны, зьмянілася норма, па якой выбіраліся сельскія саветы, уведзены самастойныя сельскія бюджэты, больш-менш дакладна вызначана кампэтэнцыя пленумаў сельскіх саветаў, вызначаны ўзаемаадносіны паміж сельскімі саветамі і сельскімі сходамі і г. д. Палажэньне пра сельскія саветы 1925 года зьяўляецца няпоўным. Там, напрыклад, нічога не гаворыцца пра пленумы сельсаветаў, пра іх выключную кампэтэнцыю, пра камісіі сельскіх саветаў з паказаньнем іх колькасьці, назваў і іх кампэтэнцыю. Апроч гэтага, у старым палажэньні існуюць такія артыкулы, якія фактычна забараняюць адклікаьне выбаршчыкамі выбраных імі дэпутатаў. Гэта права выбаршчыкаў адклікаць з саветаў выбраных імі дэпутатаў запісана ў Канстытуцыі БССР (арт. 69), але ў палажэньні пра сельскія саветы 1925 году аб гэтым запісана ў арт. 33 так: „за бязьдзейнасьць, злоўжываньні, перавышэньне ўлады, грубыя адносіны да насельніцтва, за непадчыненьне і неакуратнае выпаўненьне пастаноў вышэйшых органаў улады, а таксама паводле хадайнічаньняў сельскіх агульных сходаў, старшыня і члены сельскага савету могуць, па пастанове раённага выканаўчага камітэту, зацьверджанай акрвыканкомам, звальняцца з сваіх пасад, незалежна ящчэ ад крымінальнага, або дысцыплінарнага пакараньня". Насельніцтва свайго выбранага дэпутата, ня гледзячы на грубыя яго адносіны, злоўжываньні і г. д., выходзіць, ня можа адклікаць з савету і ў гэтую справу трэба ўцягнуць акрвыканком, які будзе канчаткова яе вырашаць. Праўда, аб адкліканьні выбаршчыкамі з саветаў выбраных імі дэпутатаў 30-га сьнежня 1927 г. выдана Прэзыдыумам ЦВК БССР спэцыяльная пастанова (З. З. БССР за 1928 г., № 4, арт. 22), але ў той-жа час і арт. 33 палажэньня пра сельскія саветы 1925 г. не скасаваны.

Пашырэньне правоў сельскіх саветаў, неадпаведнасьць старога палажэньня сучасным умовам працы на вёсцы, непаўната старога палажэньня, багаты вопыт, які маецца ў працы сельскіх саветаў і іншыя прычыны паслужылі падставай для дачы Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам БССР дырэктывы распрацаваць праэкт новага палажэньня. Арганізацыйны Аддзел Прэзыдыуму ЦВК БССР распрацаваў гэты праэкт і, згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК, разаслаў яго на месцы для абгаварэньня.

Что новага ў проэкце, чым новае палажэньне адрозьніваецца ад палажэньня 1925 году? Гэта адразу можна заўважыць, калі праглядзець адны толькі разьдзелы палажэньняў. У старым палажэньні было тры разьдзелы: 1) агульнае палажэньне, 2) правы і абавязкі сельскіх савеветаў і 3) правы і абавязкі старшынь і членаў сельскіх саветаў. Гэтыя-ж разьдзелы ёсьць і ў праэкце новага палажэньня і да іх даданы наступныя: 1) задачы сельскіх саветаў і іх арганізацыйна-масавая работа, 2) пра пленумы сельскіх саветаў, 3) пра выканаўчыя органы сельскіх саветаў, 4) пра камісіі сельскіх саветаў, 5) пра сельскія сходы і кіраўніцтва імі. Назвы новых разьдзелаў самі за сябе гавораць аб неабходнасьці іх уключэньня ў палажэньне пра сельскія саветы.

Першы артыкул праэкту, як і адпаведны артыкул палажэньня 1925 г., устанаўляе, што сельсавет зьяўляецца на сваёй тэрыторыі вышэйшым органам улады. Апроч гэтага, тут-жа сказана, што сельскі савет аб'яднае працоўнае насельніцтва для ўдзелу ў дзяржаўным і мясцовым кіраваньні і будаўніцтве. Далей говорыцца, што сельсавет вырашае пытаньні сельскага значэньня і абмяркоўвае пытаньні агульнасаюзнага, рэспубліканскага, акруговага і раённага значэньня. Гэтым самым адразу ў агульных рысах вызначаецца роля сельскага савету на вёсцы і яго кампэтэнцыя.

Улічваючы тую акалічнасьць, што, ня гледзячы на правіла аб колькасьці насельніцтва ў сельсавеце ад 2-х да 4-х тысяч чалавек, ёсьць шмат саветаў з большай колькасьцю жыхароў, у праэкце запісана, што сельсавет утвараецца на тэрыторыі з насельніцтвам ад 2-х да 5-ці тысяч чалавек.

Замест цьвёрдага правіла, якое рэдка выконваецца, што сельсавет выбіраецца на адзін год, у праэкце сказана, што сельсавет выбіраецца на тыя-ж тэрміны, што і раённы выканаўчы камітэт. Гэта адпавядае сапраўднасьці і зьяўляецца больш гібкім правілам. Затым, у агульных палажэньнях праэкту ясна і дакладна паказаны і пералічаны прычыны, па якіх асобныя дэпутаты выходзяць са складу сельскага савету: 1) пастанова выбаршчыкаў аб адкліканьні, 2) асабістае жаданьне дэпутата і 3) страта дэпутатам выбарчага права.

Палажэньне 1925 году ўстанаўляе, што ў неабходных выпадках райвыканкомы ўзьнімаюць перад акрвыканкомамі пытаньне аб перавыбары сельсавету да тэрміну. Калі так магчыма было запісаць у 1925 г., то зараз, пры значным пашырэньні правоў РВК, калі апошнія зьяўляюцца моцнымі органамі ўлады на мясцох, так пакінуць гэты артыкул нельга, чаму ў праэкце гэта выкладзена так: „У выпадку неадпаведнасьці складу сельсавету свайму прызначэньню, а таксама ў выпадку выбыцьця з сельскага савету больш аднэй трэці яго членаў і вычэрпаньня кандыдацкага сьпісу, сельскі савет можа быць распушчан і да тэрміну яго паўнамоцтваў з назначэньнем датэрміновых перавыбараў. Робіцца гэта па пастанове РВК з паведамленьнем акрвыканкому". Новым тут зьяўляецца таксама і неабходнасьць вычэрпаць сьпіс выбраных кандыдатаў, які ёсьць. Аб кандыдатах у члены сельсаветаў трэба сказаць наступнае: палажэньне пра сельскія саветы 1925 году іх наогул не прадугледжвае, нічога не гаворыць аб іх, і таму выходзіць так, што кандыдатаў, як быццам,

няправільна выбіралі да гэтага часу. У той-жа час кандыдаты ў члены сельсаветаў існуюць, пра іх 63 арт. Інструкцыі аб выбарах у саветы гаворыць, што яны выбіраюцца ў ліку аднэй трэці выбраных дэпутатаў, і калі, напрыклад, 5-га красавіка 1928 году Прэзыдыум ЦВК БССР устанаўляў склад сельскіх і местачковых саветаў Гомельскае акругі, ён даручыў абрацъ і кандыдатаў у члены сельсаветаў (З. З. БССР за 1928 г., № 15, арт. 120). Гэта яшчэ раз гаворыць аб непаўнаце палажэньня 1925 г. На гэтай падставе ў праэкце запісана аб абавязковасьці выбараў, апроч членаў сельсаветаў і кандыдатаў да іх у колькасьці аднэй трэці агульнага ліку членаў. У сувязі з тым, што сельскія саветы зараз падзяляюцца на дзьве буйныя катэгорыі—саветы, якія маюць свае самастойныя бюджэты, і саветы, якія бюджэтаў ня маюць, і ў сувязі з тым, што ў іх правох з гэтае прычыны ёсьць розьніца,—ў праэкце запісана, што сельскія саветы, якія маюць свае бюджэты, карыстаюцца правамі юрыдычнае асобы.

Сельскія саветы маюць сваёй задачай, як сказана ўжо вышэй, вырашэньне ўсіх пытаньняў сельскага значэньня ў адміністрацыйнай гаспадарчай і культурнай галінах. Яны павінны ажыцьцяўляць мерапрыемствы, накіраваныя на культурны і палітычны ўздым сялянскіх мас і на ўздым сельскае гаспадаркі, ае сацыялістычную перабудову шляхам калектывізацыі, тэхнічнай рэканструкцыі і падняцьце ўраджайнасьці. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР, заслухаўшы на 3-й сэсіі VIII-га скліканьня даклад т. Хацкевіча аб масавай працы саветаў, адзначыў, што „надзвычайна вялікія задачы, якія стаяць перад краінай саветаў у справе далейшага замацаваньня дыктатуры пралетарыяту, замацаваньня саюзу рабочай клясы з сялянствам і разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва, могуць быць пасьпяхова вырашаны толькі пры шырокім удзеле працоўных мас у штодзённай практычнай працы саветаў. Далей, 3-я сэсія адзначыла, што „усё ўзрастаючая актыўнасьць рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і мястэчка слаба скарыстоўваецца саветамі для разгортваньня масавае работы".

Што было ў палажэньні 1925 г. аб арганізацыйна-масавай працы сельсаветаў, аб асноўных формах масавай працы (камісіях, пленумах, сходах)? Нічога. Масавая праца саветаў і палажэньне пра сельскія саветы, як быццам нічога супольнага паміж сабой ня мелі. Масавая праца праводзілася на падставе цыркуляраў, якія былі выдадзены ў розныя часы Прэзыдыумам ЦВК, НКУС і ўказаньняў Арганізацыйнага Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК. Гэтыя цыркуляры танулі ў моры папер, і новыя склады саветаў пра іх ня ведалі. Між тым кожны новы склад сельсаветаў абавязкова знаёміцца з палажэньнем пра сельскія саветы і гэтым палажэньнем карыстаецца ў штодзённай працы.

Па гэтых меркаваньнях у праэкт уключан новы разьдзел аб задачах сельсаветаў і іх арганізацыйна-масавай працы. Зьместам гэтага разьдзелу зьяўляюцца ўсе ўказаньні аб масавай працы саветаў, якія ўжо даваліся Прэзыдыумам ЦВК. На сельсаветы ўскладаецца абавязак згуртаваць вакол саветаў батракоў, сялян-беднякоў і сераднякоў, батрачак, сялянак і рабоча-сялянскую моладзь і пашырыць удзел гэтых груп насельніцтва і іх самадзейнасьць у практычнай працы саветаў. Сельсаветы павінны працаваць, як сапраўдны калектыўны орган; больш важныя пытаньні яны павінны прапрацоўваць у камісіях, пасьля чаго разглядаць на сваіх пленумах; сельсавет павінен забясьпечыць ажыцьцяўленьне права крытыкі працы ўсіх органаў улады, клапаціцца аб выхаваньні і кваліфікацыі выбраных сялянак, склікаць пленумы сельсаветаў па чарзе ў розных насельных пунктах і тым самым набліжаць савет да працоўнага насельніцтва, даваць рэгулярныя справаздачы выбаршчыкам, прымацоўваць усіх членаў сельсавету да паасобных залюдненых пунктаў для іх абслугоўваньня; урэшце, сельсавет павінен заслухоўваць рэгулярныя, раз у тры месяцы, справаздачы свайго прэзыдыуму і трымаць шчыльную сувязь з усімі грамадзкімі арганізацыямі, увязваць іх дзейнасьць з сваёй дзейнасьцю.

Кампэтэнцыя сельсаветаў па праэкту падзяляецца на дзейнасьць у наступных галінах: 1) арганізацыйнай; 2) адміністрацыйнай; 3) фінансава-бюджэтнай; 4) сельскай і лясной гаспадаркі; 5) мясцовай гаспадаркі, каапэрацыі і гандлю; 6) працы; 7) ваеннай і 8) сацыяльна-культурнай. У адпаведнасьці са зьменай заканадаўства за апошнія 4 гады, з арганізацыяй новых установаў і г. д. зьменены і дапоўнены абавязкі сельсаветаў у паасобных галінах. Напрыклад, устанаўляецца, што сельскія саветы кіруюць дзейнасьцю сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі (замест ранейшага садзейнічаньня і дапамогі), выбіраюць суды пры сельскіх саветах, дзе гэткія арганізаваны; выконваюць судовыя рашэньні выдаюць пасьведчаньні асобы, накладаюць пакараньні за парушэньне абавязковых пастаноў, складаюць і разглядаюць сельскія бюджэты або прыхода-расходныя каштарысы, праводзяць на сельскіх сходах самаабкладаньне насельніцтва, выконваюць пастановы зямельных камісій, якія не патрабуюць каморніцка-тэхнічнага выкананьня ў натуры, здаюць вучасткі пад забудову (калі сельсавет мае свой бюджэт), наглядаюць за правільным скарыстоўваньнем школьных будынкаў, зямель, гародаў, садоў і г. д. Тут трэба заўважыць, што пры вызначэньні кампэтэнцыі сельсаветаў у розных галінах працы браўся напрамак на пашырэньне іх правоў, якія забясьпечвалі-б сельсаветам больш самастойнасьці ў іх працы.

Праэкт падрабязна застанаўляецца на пленумах сельсаветаў і імкнецца дакладна вызначыць парадак іх скліканьня, іх кампэтэнцыю, асоб, якія маюць права браць у ім удзел. Устанаўляецца, што першы пленум сельсавету новага скліканьня павінен адбыцца не пазьней двух дзён пасьля сканчэньня выбараў усяго сельсавету і далей павінен адбывацца не радзей аднаго разу ў месяц (чарговыя пасяджэньні). Пазачарговыя пасяджэньні могуць адбывацца: 1) па прапанове РВК, 2) па ініцыятыве прэзыдыуму сельсавету; 3) па патрабаваньню ня менш аднэй трэці членаў сельсавету. Кандыдаты ў члены сельсавету карыстаюцца на пленумах дарадчым голасам, а пры адсутнасьці некаторых членаў саветаў—пастаноўчым голасам у парадку рэгістрацыі яўкі кандыдатаў на данае пасяджэньне. Прадстаўнікі вышэйшых выканаўчых камітэтаў, прадстаўнікі розных мясцовых установаў, грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый на пленумах удзельнічаюць з правам дарадчага голасу. Усе асобы, якія маюць выбарчае права, могуць прысутнічаць на пленумах.

Кампэтэнцыя пленумаў падзяляецца на выключную і звычайную. Да выключнай кампэтэнцыі пленуму належыць: 1) зацьверджаньне сельскага бюджэту альбо прыхода-расходных каштарысаў, а таксама справаздач аб іх выкананьні; 2) абраньне дэлегатаў на раённыя зьезды саветаў; 3) абраньне старшыні сельсавету, яго намесьніка і ўпаўнаважаных сельсавету; 4) арганізацыя камісій і зацьверджаньне выбраных камісіямі старшынь; 5) зацьверджаньне пакватральных плянаў працы сельсавету і яго камісій. Далей,

па ўстанаўленьні кампэтэнцыі пленуму, праэкт вызначае, што пленумы як па сваёй ініцыятыве, так і па прапанове вышэйшых органаў улады могуць абмяркоўваць і інш. пытаньні. Кворум пленумаў сельсаветаў вызначан у разьмеры паловы членаў савету, прычым гэты лік членаў савету застаецца абавязковым на ўвесь час пасяджэньня.

У разьдзеле пра выканаўчыя органы сельскіх саветаў вызначаюцца ў праэкце наступныя выканаўчыя органы: прэзыдыум, старшыня, упаўнаважаныя сельсаветаў. Прэзыдыум складаецца з 5-ці асоб—старшыні, яго намесьніка, сакратара і двух членаў. У выключных выпадках сакратар можа быць і ня членам савету, і тады пленум выбірае ў прэзыдыум ужо ня 2-х, а трох членаў савету, апроч старшыні і яго намесьніка. Прэзыдыум карыстаецца паміж пленумамі сельсаветаў усімі правамі апошніх, за выключэньнем тых, якія складаюць выключную кампэтэнцыю пленуму савету. Прэзыдыум павінен склікацца не радзей аднаго разу на тыдзень старшынёй сельсавету.

Старшыня сельсавету паміж пасяджэньнямі прэзыдыуму карыстаецца яго правамі. Аб зробленых сваіх захадах старшыня павінен паведаміць прэзыдыум на першым-жа пасяджэньні, і загады старшыні савету, з якімі прэзыдыум будзе ня згодзен, прэзыдыум можа скасаваць.

Праэкт уводзіць інстытут упаўнаважаных сельскага савету, якія выбіраюцца сельсаветам са складу членаў савету данае мясцовасьці на паасобныя паселішчы. Упаўнаважаныя зьяўляюцца прадстаўнікамі савету, праз якіх савет ажыцьцяўляе розныя пастановы—як свае, так і вышэйшых органаў улады, а таксама склікае і адчыняе сельскія сходы. Упаўнаважаныя аб сваёй дзейнасьці даюць справаздачу сельскаму савету і яго прэзыдыуму.

Інстытут упаўнаважаных не зьяўляецца чымсьці новым. Яшчэ VII Усебеларускі Зьезд Саветаў у сваёй пастанове за 9 мая 1925 году па дакладу па пытаньнях савецкага будаўніцтва прапанаваў „прымацаваць усіх членаў сельсаветаў к залюдненым пунктам для абслугоўваньня і кіраўніцтва сялянскімі сходамі“. Такім чынам, праэкт новага палажэньня толькі рэалізуе дырэктыву VII Усебеларускага Зьезду Саветаў.

Калі палажэньне 1925 г. гаварыла, што працоўнае насельніцтва ўцягваецца ў савецкае будаўніцтва „праз адпаведныя камісіі, якія ўтвараюцца пры сельскіх саветах і дзейнічаюць на падставе асобых палажэньняў“, дык гэта было ўсё, што было ў палажэньні пра камісіі пры саветах. Камісіі ў справе ўтварэньня савецкага актыву ў вёсцы, у справе непасрэднага ўдзелу працоўных у вырашэньні мясцовых пытаньняў адыгрываюць вялікую ролю. Па тым, як працуюць камісіі можна беспамылкова судзіць аб працы ўсяго савету, чаму зусім зразумела зьяўляецца зьмяшчэньне ў праэкце асобнага разьдзелу пра камісіі сельскіх саветаў. У параўнаньні са сьпісам абавязковых камісій, які быў устаноўлен пастановай ЦВК і СНК БССР у 1925 годзе, у праэкце ёсьць зьмены. Праэкт намячае наступныя абавязковыя камісіі пры сельсаветах па пытаньнях: 1) сельска-гаспадарчых, 2) культурна-сацыяльных і дабрабыту, 3) фінансава-падатковых і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе, 4) палепшаньня працы і быту жанчын і 5) садзейнічаньня капэрацыйным і грамадзкім арганізацыям. У параўнаньні з камісіямі, устаноўленымі ў 1925 годзе, застаецца толькі са старой назвай сельска-гаспадарчая камісія. Новыя камісіі замест старых утвараюцца ў сувязі са зьменамі адпаведнага заканадаўства. Напрыклад, згодна пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР, прынятых у апошнія часы на падставе саюзнага заканадаўства, павінны абавязкова ўтварацца пры сельсаветах камісіі па палепшаньні працы і быту жанчын і камісіі садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе. Калі пакінуць раней існаваўшыя пяць абавязковых камісій і да іх дадаць яшчэ дзьве, то ўсяго будзе 7 абавязковых камісій, у той час, калі ёсьць шмат саветаў, дзе не з'арганізавана і 5-ці камісій, або яны арганізаваны, але не працуюць.

Улічваючы гэтую акалічнасьць, будзе немэтазгодным павялічваць лік абавязковых камісій. Праэкт вызначае задачы камісій пры сельсаветах так: практычнае азнаямленьне членаў саветаў з працай у данай галіне, распрацоўка мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні загадаў вышэйстаячых органаў улады ў той-жа галіне, дэталёвая распрацоўка мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню заданьняў як сельскага савету, так і вышэй стаячых органаў улады, прапрацоўка пытаньняў, якія ўносяцца на разгляд пленуму сельскага савету, праяўленьне ініцыятывы ў адпаведнай галіне працы. Пастановы камісій зацьвярджаюцца прэзыдыумам сельскага савету, пасьля чаго яны праводзяцца ў жыцьцё.

Адносна сельскіх сходаў у палажэньні 1925-га году было запісана толькі наступнае: сельскі савет „склікае агульныя сходы грамадзян і кіруе імі“, чаму адчувалася патрэба ў выданьні спэцыяльнага закону пра сельскія сходы. Такі закон быў выданы Прэзыдыумам ЦВК БССР другога красавіка 1929 г. (З. З. БССР за 1929 г., № 9, арт. 42). Сельскія сходы склікае сельскі савет, ён іх адчыняе, складае парадак дню, зацьвярджае пастановы сходу, вызначае парадак іх ажыцьцяўленьня. Сельскія сходы зьяўляюцца аднэй з важных форм масавай працы сельскіх саветаў.

Разьдзел аб правох і абавязках членаў сельскіх саветаў, у параўнаньні са старым палажэньнем, пашыран ужо тым, што ў праэкце гэты разьдзел гаворыць і аб правох і абавязках кандыдатаў у члены сельсаветаў. На членаў сельсаветаў ускладаецца агульны абавязак імкнуцца да ажыцьцяўленьня стаячых перад сельскімі саветамі задач і падтрымліваць непарыўную сувязь з выбаршчыкамі і вясковымі грамадзкімі арганізацыямі. Члены сельсаветаў маюць права ўдзельнічаць у пасяджэньнях і нарадах усіх савецкіх устаноў і грамадзкіх арганізацый, што знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету. Уводзіцца адказнасьць членаў саветаў за неакуратнае наведваньне пасяджэньняў савету,—сельсавет за гэта можа абвясьціць вымову з агалашэньнем яе на адпаведным сельскім сходзе. Члены сельскіх саветаў выконваюць свае абавязкі па сельсавету бясплатна, але тут-жа ўстанаўляецца, што час, які траціцца членамі сельскіх саветаў на выкананьне дэпутацкіх абавязкаў па даручэньню сельсавета, калі ён зыходзіцца з рабочым часам, аплачваецца ў разьмеры сярэдняга заработку данага члену савету тэй установай, прадпрыемствам, альбо асобай, дзе працуе член сельсавету.

Вось коратка аб тым, што зьяўляецца новым і больш галоўным у праэкце новага палажэньня пра сельскія саветы. Вядома, што на падставе тых заўваг, якія паступяць з месц, у праэкт будуць унесены розныя зьмены і дапаўненьні. Задачай месц у гэтай справе зьяўляецца, так сказаць, прымерка новага праэкту да сучасных умоў працы на вёсцы. Месцы павінны сказаць, наколькі новае палажэньне можа забясьпечыць пасьпяховае выкананьне сельскімі саветамі задач, якія стаяць перад імі ў розных галінах працы.

А. Пятосін.

# ДВА ГАДЫ ПРАЦЫ СТАРАДАРОСКАГА РАЙВЫКАНКОМУ.

## Сельская гаспадарка.

У 1925 годзе пасеўная плошча раёну складала 137493 гэктары, да 1928 г. павялічылася да 149761 гэкт. Гэта павялічэньне адбылося па ўсіх відах угодзьдзяў, а лясная няўжыткоўная плошча значна паменшылася. Гэта тлумачыцца передачаю плошчы зямлі з ляснога фонду ў зямельны. Частка павялічэньня плошчы зямлі падае на выкрыцьцё утоеных зямель сялянствам. Рост безьзямельных і малазямельных гаспадарак з адначасовым паніжэньнем колькасьці забясьпечаных зямлёю тлумачыцца агульнаю нізкаю зямельнай забясьпечанасьцю па раёну (на двор з 5-6 душ прыходзіцца пашні 3,78 гэктараў і сенажаці—2,76 гэкт.), каб дадзяліць да мінімальнай нормы, патрэбна каля 10.000 гэктараў.

За апошнія два гады ёсьць значнае павялічэньне засеву кармавых траў. Гэта ўжо гаворыць пра тое, што наш селянін пакрысе пачынае шукаць ад сваёй зямлі большай карысьці і прыбытковасьці; прыслухоўваецца да агранамічных парад.

Значна павялічылася за апошнія два гады жывёлагадоўля. Рабочых коняй у 1925-26 г. было 6360, а ў 1927-28 г. стала 6902, валоў у 1926 г. было 1140, у 1928-29 г.—679; кароў у 1926-27 г.—16972, у 1928 г.—18599; сьвіней у 1926 годзе.—18.000, а ў 1928 г.—20301.

## Земляўпарадкаваньне.

..а рэвалюцыі на абшарах нашага раёну было земляўпарадкавана на так званыя „сталыпінскія хутары“ 643 гаспадаркі на плошчы 7436 гэктараў. Пасьля рэвалюцыі да 1926 г. земляўпарадкавана 701 гаспадарка на плошчы 5753 гэктары, а за апошнія два гады—622 гаспадаркі на плошчы 77412 гэктары; усяго па раёну земляўпарадкавана 1966 гаспадарак на плошчы 20931 гэкт., што складае 27,1% агульнае плошчы ўдобнай зямлі, ня лічачы лясной плошчы. Слабы тэмп земляўпарадкаваньня тлумачыцца недахопам каморнікаў.

У сувязі з перанаселенасьцю, малазямельлем і нізкай якасьцю глебы наглядаецца цяга сялян да перасяленьня ў іншыя мясцовасьці. У большасьці перасяляюцца бедпякі. За апошнія два гады перасялілася за межы раёну 850 чалавек (137 гасп.).

## Агранамічная і вэтэрынарная праца.

У 1926 г. у раёне быў усяго адзін аграном і 2 памоцнікі; у сучасны момант ужо працуе 3 памоцнікі. Вядома, што абслужыць усё насельніцтва 4 агрпрацоўнікі ня могуць. За гэтыя два гады праведзена 5 сельска-гаспадарчых курсаў, прачытана 50 лекцый, праведзена 25 канфэрэнцый. На набыцьцё сельска-гаспадарчых машын і прыладаў адпушчана за гэтыя два гады каля 5.000 р. і распаўсюджана мінэральнага ўгнаеньня 15.800 кілёг. За гэты-ж год ачышчана 450,5 тон насеньня, пратраўлена 54,7 тон, пераведзена на шматпольле 1970 гэктараў, закладзена 94 паказальных вучасткаў у 99 гаспадарках на плошчы 6,95 гэкт.

У раёне ёсьць 2 вэтэрынарныя пункты, з трыма працаўнікамі, але яны ня могуць у належнай меры абслужыць усё насельніцтва.

## Калектывізацыя.

У апошні час заўважваецца некаторае зрушэньне ў справе калектывізацыі. Калі ў 1925 годзе быў арганізован толькі адзін калгас з 8 гаспадарак у 40 душ, на плошчы 132 гэктары, то за апошні год арганізавана 3 калектыўныя гаспадаркі з 27 сем'яў і 87 душ, на плошчы 172 гэктары (сярод іх 2 яўрэйскіх). Арганізавана 7 вытворчых сельска-гаспадарчых, каапэрацыйных т-ваў: пчалярных, птушніцкіх, агнятрывалых, малочных і інш., з лікам членаў у іх у 120 чалавек. Савецкаю гаспадаркаю (Палажэвічы) бярэцца ўхіл на жывёлагадоўлю. Савецкая гаспадарка мае паравы млын з цыркуляркай і броварным заводам. У працягу гэтых 2 гадоў саўгасам ачышчана сялянам дармова 95 тон жыта, 78,3 т. аўса, 41,7 т. ячменю; заменена на гатунковае насеньне: жыта—47,5 тон, аўса—41,7 т., ячменю—31,7 тон; пакрыта 185 сялянскіх кароў быкамі вытворнікамі са скідкай на 50%, апрацавана 28 бяднейшым сялянскім гаспадаркам зямля, выдана дармова 200 кгр. жыта, 150 кгр. аўса, 150 кгр. ячменю і інш.

## Лясная гаспадарка.

Лясоў у раёне налічваецца 50.697 гэктараў; з гэтага ліку 6697 гэктараў лясоў мясцовага значэньня. За апошнія два гады прыбытак ад лясоў складае 596159 р.

За гэты-ж час насаджана і пасеяна сасна на плошчы 246 гэктараў, закладзены гадавальнікі на плошчы 900 кв. мэтр., ачышчана лесасек на плошчы 395,32 гэктары.

## Мэліарацыя.

У раёне ёсьць 5 мэліарацыйных таварыстваў. Языльскае мэліарацыйнае таварыства пракапала за два гады 6429 паг. мэтры канаў і прачысьціла раку на працягу 14,83 паг. клм. Шчыткаўскае пракапала канаў 15 паг. клм. і ўзарала за апошні год 25 гэктараў; Новаісавіцкае таварыства праводзіць досьледы балотных масываў для правядзеньня мэліарацыйных работ.

## Прамысловасьць і саматужніцтва.

Раён зьяўляецца выключна сельска-гаспадарчым — прамысловасьці буйнай няма. Амаль уся прамысловасьць складаецца з млыноў, цыркулярак і смалакурных заводаў. У апошні час пушчан Дараганаўскі паравы млын з лесазаводам, які да гэтага часу стаяў. Акрвыканком адпусьціў 5.000 р. на пашырэньне Старадароскай электрастанцыі і крэдыт на адрамантаваньне і пераабсталяваньне Пастаўскага паравога млына. Ёсьць добрыя вынікі ў справе арганізацыі саматужных арцеляў, якіх цяпер налічваецца 8. Арганізавана прамысловае крэдытнае таварыства, у якім 133 пайшчыкі.

## Камунальная гаспадарка і шляхавае будаўніцтва.

За апошнія два гады па раёну адрамантавана 7 будынкаў на агульную суму 2309 р. 47 кап. У м. Старыя Дарогі пабудавана новая тыпопая жывёлабойня, якая абышлася ў 2.500 р., і новы дом пры райбольніцы. На пабудову новых школ скарыстана 6249 р. 49 к. і на рамонт 1993 р. 51 к.

Шляхі мясцовага значэньня пашыраюцца сіламі насяленьня і часткай за кошт дзяржавы. Усяго пабудавана 11 новых мастоў (3 масты раённага значэньня) і наладжана 14 грэбляў (адна грэбля у 180 мэт.).

Проціпажарная ахова раёну знаходзіцца ў дрэнным становішчы. Усяго ёсьць 11 сельскіх і 1 мястэчковая дружына і 2 пажарныя атрады, у якіх налічваецца 513 драбаахвотнікаў, 11 машын, 29 кадушак і 2 уласных каняй.

## Каапэрацыя.

У раёне ёсьць 2 сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, з якіх Дражнінскае арганізавана ў

1927 годзе і абслугоўвае 3 сельсаветы (Шчыткаўскі, Жыцінскі, і Дранменскі), а астатнія сельсаветы абслугоўваюцца Старадароскім крэдытным таварыствам. Усяго пайшчыкаў лічыцца 2.400 чал., а паявога капіталу—10.937 р. 62 к. Рост крэдытнай каапэрацыі ідзе пераважна за лік прадажна-закупных апэрацый. Крэдытуецца больш бедната і серадняцтва. За два гады розных пазык выдана 2782 гаспадаркам на суму 79.482 р. 82 к. Асаблівая ўвага зьвернута ў гэтым годзе на контрактацыю культур. Усяго закантрактавана: лёну 49,5 гэктараў, бульбы—71, канюшыны—0,5, лубіну—10,5, сэрадэлы—2,5 жыта—367,25 гэкт.

Побач з ростам сельска-гаспадарчай крэдытнай каапэрацыі расьце і спажывецкая каапэрацыя. У раёне ёсьць 4 спажывецкіх таварыстваў, якія ахапляюць 4252 пайшчыкі, што складае 48,7 гаспадарак усяго раёну; паявы капітал—29.595 р. 74 к.

## Культасьветная праца.

У раёне лічыцца 45 школ—71 камплект, з якіх 2 сямігодкі. На народную асьвету за апошні год выдаткавана 101,576 р., або 53,4% усяго бюджэту. Школамі ахоплена дзяцей школьнага ўзросту 62%, падручнікамі і прыладамі школы забясьпечаны на 75%. Для дапамогі бяднейшым вучням з кожным годам адпускаецца ўсё больш і больш сродкаў і РВК і самім насельніцтвам. За гэтыя два гады пабудавана адна 2-х камплектовая школа ў в. Нарадарэсьсі, адна 4-х камплектовая (неплянавая) у м. Старыя Дарогі, канчаецца 2-х камплектовая школа ў в. Крамок, і будуецца інтэрнат пры Горкаўскай сямігодцы. За лік самаабкладаньня пабудавана школа ў в. Рубежы і будуюцца ў в. Александраўцы і Шапчцы. Апроч школ, ёсьць тры штатныя хаты-чытальні і 5 па-заштатных і 1 нардом. Няпісьменнасьць зьліквідавалі 1905 асоб.

## Камітэты ўзаемадапамогі

У раёне налічваецца 11 сельскіх камітэтаў сялянскай узаемадапамогі і адзін раённы. Старшыні селькамітэтаў працуюць здавальняюча, але значная частка ўпаўнаважаных непрацаздольна.

Камітэтамі ахоплена 80% сялянскіх двароў. Разьвіцьцё вытворчасьці прадпрыемстваў разгортваецца слаба, апроч Шчыйкаўскага селькому, які мае цагельню з вытворчасьцю 150.000 шт. цэглы ў год. Пры правядзеньні веснавой пасеўкампаніі камітэтамі выдана пазыкі 1200 бядняцкім гаспадаркам: аўса—4.000 п., ячменю—350 п., грэчкі—256 п., грашовай дапамогі—325 р., апроч гэтага, апрацавана 15 гэктараў, зямлі і каапэравана 45 гаспадарак.

## Нацпытаньне.

Ёсьць адзін яўрэйскі нацыянальны савет. Па сваёй масавай працы нац. савет значна вышэй стаіць за астатнія сельсаветы: тут актыў больш уцягваецца ў працу і існуючыя камісіі працуюць здавальняюча.

У раёне ёсьць 1 яўрэйская калектыўная гаспадарка, 2 школы і адна польская, а ў вёсцы Шчытах мяркуецца адчыніць расейскую школу.

## Ахова здароўя.

Пры раённай больніцы функцыянуе 25 ложкаў. Апроч больніцы, у раёне ёсьць 2 урачэбных пункты, 2 фэльчарска-акушорскія пункты і дзіцячая кансультацыя. За 2 гады прапушчана 110666 хворых.

## Бюджэт раёну.

Рост бюджэту характарызуецца наступнымі данымі: у 1926-27 г. прыбытак складаў 68.528 руб., а выдаткаваньне—151.504 р., у 1928-29 г. прыбытак узрос да 120.855 руб., а выдаткаваньне—209.089 руб. Большасьць прыбытку дае сельгаспадатак.

Дзякуючы напружанай працы райвыканкому, у раёне рэалізавана першай пазыкі індустрыялізацыі на 2.570 р., 10 проц. унутранай 1927 г. на 2.500 р. узмацненьня сялянскай гаспадаркі на 25.035 і 2-й пазыкі індустрыялізацыі на 23.865 р., што складае 280% заданьня; праведзена самаабкладаньня на 21.039 руб.

## Праца сельсаветаў.

Працу сельскія саветы праводзілі ў большасьці плянава. Прэзыдыумы сельсаветаў паступова ўцягваюць у працу членаў с-с., актыў вёскі, настаўніцтва. Сельсаветы зьвярнулі ўвагу ў апошні час на кіраўніцтва ўсіх устаноў, на залучэньне сялянскіх сродкаў у каапэрацыю, пабудову школ, мастоў, грэбляў арганізацыю таварыстваў. Некаторыя сельсаветы знаёмяць насельніцтва з савецкімі законамі, прынялі актыўны ўдзел у правадзімых кампаніях (самаабкладаньне, рэалізацыя пазык).

Побач з дасягненьнямі ў працы сельсаветаў ёсьць шэраг недахопаў: слаба працуюць камісіі (пры некаторых сельсаветах зусім не працуюць), няма вучоту актыву вёскі, ня ўсе члены с-с. уцягнуты ў працу, і ня ўсе сельсаветы разгарнулі гаспадарчую працу, не разумеючы тых абавязкаў, якія на іх ускладзены.

М. Шэшка.

**Абмен вопытам працы на мясцох і азнаямленьне з дырэктывамі вышэйшых органаў палепшыць якасьць працы ўсёй сыстэмы савецкага апарату.**

# Пачалася чыстка савецкага апарату.

**(Коханаўскі раён, Аршаншчына).**

З 15-га чэрвеня па прыезьдзе прадстаўніка РСІ—старшыні камісіі па чыстцы апарату—т. Васільевай, пачалася падрыхтоўчая праца да чысткі. Па вёсках раёну былі праведзены сялянскія сходы, на якіх тлумачыліся задачы чысткі, і на якіх усюды прысутнічала вялікая колькасьць сялян. У выніку ў камісію падана шмат заяў на асобных працаўнікоў. Да прыезду-ж прадстаўніка РСІ па раёну ніякае падрыхтоўкі ня было і амаль што ніхто з сялян ня ведаў пра чыстку. Зараз вылучаны сялянскія брыгады па с/с для расьсьледаваньня сапраўднасьці скаргаў і заяў. Адначасова асобна вылучаная камісія правярае працу раённых устаноў. Вывешаны ў раёне і сельсаветах скрынкі для для падачы заяў.

З 1-га ліпеня камісія прыступіла да самае чысткі апарату. Ужо праверан склад працаўнікоў па 3 сельсаветах. Прайшло чыстку 17 чал., з іх 6 працаўнікоў с/сав., 4 чал., з лясьніцтва, 3—з каапэрацыі і 4—з віназаводу. Пастаноўлена вычысьціць: па 1-й катэгорыі—1, па 2-й катэгорыі—2 і зьняць з працы, як індывідуальна абкладзеных—1. Сярод вычышчаных — 2 сакратары сельсаветаў, 1 загадчык крамы спажывецкага таварыства і 1 лясьнік.

Усе яны вычышчаны па наступных мотывах: 1) *Пятроўскі*—член партыі, сакратар сельсавету—вы-

# Папярэднія вынікі чысткі і праверкі савапарату Парыцкага раёну.

Чыстка савецкага апарату па Парыцкаму раёну амаль што на палову скончана. За 10 дзён—з 20 да 30 чэрвеня—камісія працавала ў 4-х праверачных пунктах: у м. Парычы і вёсках—Дубрава, Шацілкі і Чыркавічы. Праверaны ўсе ўстановы, якія працуюць на тэрыторыі гэтых праверачных пунктаў. Усяго праверана 15 устаноў—155 супрацоўнікаў.

Нягледзячы на тое, што падрыхтоўчая праца ў галіне расьсьледваньня паступіўшага матар'ялу райкамісіяй садзейнічаньня нічога ня зроблена, на адкрытых пасяджэньнях камісій гэтыя матар'ялы амаль што поўнасьцю пацьвярджаюцца.

Ёсьць цэлы шэраг выпадкаў, што ў распараджэньне камісіі на таго ці іншага працаўніка кампраметуючага матар'ялу не паступала, але на агульным сходзе выяўляецца цэлы шэраг фактаў, за якія службовыя асобы бясспрэчна падлягаюць зьняцьцю з працы. Прыемна адзначыць, што маса да гэтага пытаньня падыходзіць вельмі сур'ёзна—адсутнічаюць моманты зьвядзеньня асабістых разрахункаў. Таксама вельмі вялікую актыўнасьць праяўляюць сяляне на адкрытых пасяджэньнях камісій, якія праводзяцца ў вёсках, выступаюць з канкрэтнымі фактамі, супроць якіх ніяк ня пойдзеш, бесьперапынна прысутнічаюць і прымаюць актыўны ўдзел у працы па разгляду матар'ялаў на працягу 10—12 гадзін (в. Дуброва).

На праверачным пункце в. Чыркавічы да дню пасяджэньня камісіі была прыстасавана батрацка-бядняцкая канфэрэнцыя, па сканчэньні якой было адчынена пасяджэньне камісіі, дзе праводзілася чыстка і праверка сельсавету, спажывецкай каапэрацыі і чыстка супрацоўнікаў Парыцкага лясьніцтва.

Абслужыць усе сельсаветы па праверцы на мясцох праверачнай камісіі няма ніякай магчымасьці, а таму асобныя сельсаветы прымацоўваліся для праверкі да бліжэйшых праверачных пунктаў, дзеля чаго раней пасылаліся на месца члены камісіі або прадстаўнікі ад партыйнай ячэйкі, якія абгаварвалі на сходах беднаты і агульных сходах працу саветаў, а пасьля ўжо гэты матар'ял з удзелам усіх прысутных сялян, разглядаўся на адкрытых пасяджэньнях праверачных камісій у тым або іншым праверачным пункце.

Тыя савецкія ўстановы, якія абслугоўваюць выключна сялянства (органы лясьніцтва і інш., што знаходзяцца ў мястэчку), прымацаваны для праверкі да вясковых пунктаў.

Трэба адзначыць, што поруч з правядзеньнем падрыхтоўчай працы да чысткі сав. апарату з боку анты-савецкага элемэнту вялася таксама падрыхтоўка, каб затармазіць актыўнасьць мас, якая выявілася ў тым, каб на сходах не выступалі, бо чыстка—гэта нібыта толькі размовы, таму і ня трэба выступаць (в. Шацілкі). Маюць месца з боку некаторых асоб спробы скарыстаць чыстку для кампрамэтацыі добрых грамадзкіх працаўнікоў.

Значная частка членаў камісіі, якія рабілі абгляд, не зразумелі добра сутнасьці абгляду, не азнаёміліся з праграмай НК РСІ па абсьледваньні ўстаноў, чаму абсьледаваньне некаторых устаноў не дало пажаданых вынікаў. Так, абгляд Крукаўскага і Парыскага лясьніцтваў быў зьведзены да вузкага рэвізійнага абгляду фармальнага парадку. Правяралася правільнасьць вылічэньня спагнаных сум па лесарубачных білетах і па продажы лесу. Апрача гэтага, камісія па абгляду занялася складаньнем характарыстык на паасобных супрацоўнікаў л-ва і разам з адміністрацыяй і рабачкомам рашылі, каго зьняць, каго перакінуць на іншую працу, а каго нават накіраваць у камісію для ўстанаўленьня працаздольнасьці. Супрацоўнікі ўстаноў ня былі ўцягнуты ў гэтую працу.

Абгляд Шацілкаўскага сельсавету зводзіўся выключна да складаньня характарыстык на членаў сельсавету, якія не працавалі. Па іншых пытаньнях камісія абмяжоўвалася агульнымі фразамі.

У камісію па абгляду ўстаноў мала ўцягнута рабочых, сялян-беднякоў, у большасьці кіраўнікі ўстаноў правяралі адзін аднаго.

Пастановай камісіі зьняты з працы наступныя асобы:

*Карпенка*—былы загадчык пошты, стары чыноўнік, надзвычайны фармаліст-бюракрат. Пасылкі з пошты адсылаў на кватэру, дзе трымаў па 2 месяцы; ад рабочага Окуня пры выдачы пасылкі ўзяў хабар—адну пару панчох. Ён заяўляе, што папы, кулакі і рабочыя—у яго аднолькавыя.

*Тульман*—бухгальтар саматужна-прамысловай каапэрацыі зьяўляўся адказным працаўнікам каапэрацыі (часта замяшчае старшыню ў часе яго ад'езду), адначасова выконвае роль кантара сінагогі, мае сувязь з рабінамі і г. д.

*Арлоў*—сыстэматычна злоўжываў, прысвойваў грошы па падпісцы газэт, часопісаў і розных твораў, у выніку чаго, падпісчыкі газэт не атрымлівалі. Тыраж падпіскі дзякуючы яму вельмі паменшыўся, п'яніца, амаль усю пэнсію прапіваў.

Апрача гэтага, быў зьняты з працы сакратар суду (за бюракратызм), лясьнічы *Шчэрбін* за злоўжываньне, загадчык крамы Дуброўскага спажывецкага т-ва за растрату, а на іншыя накладзены розныя спагнаньні.

**Перчанок.**

---

чышчан па 2 катэгорыі за п'янку, грубыя адносіны да сялян, парушэньне клясавае лініі пры разьмеркаваньні хлеба беднякам і інш.; 2) *Раманкевіч*—сакратар сельсавету—за сыстэматычную п'янку і судзімасьць за забойства (быў асуджан на 4 гады); 3) *Грамакоўскі*—лясьнік—вычышчан па І-й катэгорыі за сувязь з кулацтвам, п'янку, зьбіваньне сялян; 4) *Салай*—загадчык крамы спажывецкага таварыства—зьняты з працы, як індывідуальна абкладзены.

Трэба адзначыць, што лепшая падрыхтоўка да чысткі была праведзена па Алёнавіцкаму с/с, дзе быў выпушчан спэцыяльна прысьвечаны чыстцы нумар насьценгазэты „Чырвоная вёска", у якім былі адзначаны недахопы ў працы сельсавету і ўстаноў, а таксама была вывешана скрынка для заяў і вылучана брыгада з сялянскага актыву для праверкі.

Па Алёнавіцкаму і Пяровалацкаму с/с наглядаліся імкненьні з боку заможнай часткі і кулацтва, а таксама прымазаўшыхся да савецкай улады сялян „вычысьціць" сумленных працаўнікоў. Ня гледзячы на гэтыя выступленьні большасьць сялян правільна крытыкавала дзейнасьць асобных працаўнікоў і дапамагла камісіі высьветліць правяраемую кандыдатуру ўсебакова.

Як адмоўны бок ў кампаніі па чыстцы апарату трэба адзначыць недагляд РВК, чаму яго абежнік аб чыстцы, адрасаваны Пяровалацкаму с/с, ляжаў у папках рэгістратуры РВК бяз руху, што некалькі адбілася на растлумачэньні насяленьню задач чысткі.

**Рабкор Бяляеў.**

# ВЫНІКІ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КОНКУРСУ

## НА ЛЕПШУЮ СЭКЦЫЮ ГАРСАВЕТУ І ЛЕПШЫ СЕЛЬСКІ І МЕСТАЧКОВЫ САВЕТ З КАМІСІЯМІ.

У кастрычніку мінулага году, у ажыцьцяўленьні пастановы III сэсіі ЦВК БССР, Прэзыдыумам ЦВК была вынесена пастанова аб правядзеньні конкурсу на лепшую сэкцыю і лепшы сельскі і местачковы савет з іх камісіямі. Асноўнымі задачамі конкурсу былі: а) праверка працы савету з пункту погляду ажыцьцяўленьня імі клясавай лініі ў практычнай працы; б) выяўленьне лепшых прыкладаў масавай і гаспадарчай працы савету дзеля перанясеньне іх у практыку другіх саветаў; в) максымальнае прыцягненьне ўвагі працоўных мас да дзейнасьці саветаў дзеля ажыўленьня і палепшаньня яе ў далейшым праз аб'яднаньне вакол саветаў актыву рабочых, батрацтва, беднаты, актывістак-жанчын і серадняцтва; г) узмацненьне ролі саветаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту і кіраўнікоў гаспадарчым і культурным будаўніцтвам на вёсцы, ў мястэчку і горадзе.

Як-жа гэтыя задачы атрымалі практычнае праламленьне ў праведзеным конкурсе, інакш кажучы, што даў конкурс у справе ажыцьцяўленьня пастаўленых задач.

Перш, чым зрабіць вывады аб выкананьні задач, належыць адзначыць, што шэраг асаблівых умоў і акалічнасьцяў адмоўна адбіліся на выніках конкурсу. Да гэтых акалічнасьцяў можна аднесьці перш за ўсё тое, што арганізацыя конкурсных камісій у некаторых акругах (Гомельскай—4/XII, Магілеўскай—3/XII, Менскай—27/XI—Аршанскай—27/XI) праведзена позна; арганізацыя камісій садзейнічаньня ў раёнах і гарадох (камісій пры РВК і гарсаветах) праведзена са значна большым спазьненьнем (па Гомельскай акрузе—у студзені, па Магілеўскай—толькі ў 4 раёнах у сьнежні, а ў астатніх 12—пазьней).

З прычыны разнастойнасьці правядзеньня арганізацыйнай працы па конкурсу на мясцох разгортваньне конкурсу ў акругах і раёнах праходзіла надта нядружна.

Кіраўніцтва арганізацыйна-падрыхтоўчай і практычнай працы па правядзеньню конкурсу на мясцох з боку акруговых камісій было ў значнай меры недастатковае: праверка працы камісій садзейнічаньня пры РВК і гарсаветах, а таксама і саветаў рабілася толькі дзе-ні-дзе; інструктаваньне камісій садзейнічаньня і саветаў мала практыкавалася; заслухоўваньне дакладаў, як форма кіраўніцтва, зводзілася да фармальнасьці, а практычных вынікаў давала мала.

Праведзенае абсьледваньне інструктарамі Аргаддзелу ЦВК конкурснае работы ў Магілеўскай, Аршанскай, Полацкай, Гомельскай, Мазырскай, Бабруйскай і Менскай акругах даюць падставу зрабіць вывад, што посьпехі праведзенага конкурсу ў значнай меры страчаны ад недастатковасьці кіраўніцтва конкурснай працай з боку акруговых цэнтраў. Пры гэтым належыць адзначыць, што конкурсныя камісіі працавалі, як калектывы, слаба; большая частка працы, што праводзілася на мясцох па конкурсу, праводзілася старшынямі камісій.

Дзеля наданьня конкурсу характару масавасьці—правядзеньне конкурсу было прыстасавана да тэрміну прахаджэньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Правільная ўвязка працы па конкурсу з перавыбарамі саветаў складала самыя лепшыя ўмовы для таго, каб выкарыстаць сходы сялянства і арганізацый для ўсебаковай праверкі і ацэнкі працы саветаў, забясьпечыць выкананьне ўсіх іншых задач, якія ставіліся перад конкурсам. Аднак ня ўсе месцы здолелі дасканала ўвязаць абедзьве работы, лічачы, што гэта дзьве самастойныя, складаныя кампаніі, якія зьвязаць зусім нельга. З прычыны адсутнасьці гэтае ўвязкі конкурсны агляд, асабліва працы сельскіх і местачковых саветаў і іх камісій, праходзіў без дастатковага ўдзелу працоўных мас.

Значна лепш наладжан быў агляд працы сэкцый гарсавету, асабліва акруговых гарадоў. Напрыклад, па Менскаму гарсавету агляд працы сэкцый быў пабудаваны такім чынам, што ў гэтым аглядзе прымалі ўдзел шырокія масы рабочых; дзеля гэтага гарсаветам арганізаваны былі спэцыяльныя камісіі для праверкі працы сэкцый; матар'ялы гэтых камісій вынесены былі на абгаварэньне пленумаў сэкцый, а потым на справаздачныя сходы на прадпрыемствы.

Дзякуючы гэтаму, удалося надаць гэтаму агляду сапраўдны масавы характар.

Пры правядзеньні конкурсу на лепшыя—сэкцыю, сельскі і местачковы саветы з камісіямі, адмоўным было і тое, што грамадзкія арганізацыі і ведамствы аднесьліся да конкурсу няўважліва. Гэта выявілася ў тым, што грамадзкія арганізацыі і ведамствы абмежавалі свой удзел у працы па правядзеньню конкурсу выданьнем агульнага зьместу цыркулярных указаньняў, замест вызначэньня канкрэтных форм удзелу падпарадкаваных ім органаў ці арганізацый; прычым выданьне гэтых агульных указаньняў праз абежнік ведамствамі і арганізацыямі было выканана са значным спазьненьнем. Праверкі-ж таго, як на мясцох практычна ажыцьцяўляецца ўдзел у конкурсе, ні арганізацыі, ні ведамствы не правод[illegible]

Да ліку перашкод у справе посьпяховага правядзеньня конкурсу трэба аднесьці і тое, што органы друку, як цэнтральнага так мясцовага, не далі дастатковай увагі справе ўдзелу іх у конкурсе, асабліва ў тым сэнсе, што мала друкавалася ў газэтах дырэктыўных матар'ялаў па конкурсу з мэтаю прыцягнуць увагу да конкурснага агляду працы саветаў усіх працоўных, асабліва рабселькорскія сілы. Газэты ў значнай меры не здалелі нават скарыстаць для друку той конкурсны матар'ял, які дасылаўся з месц, чаму шмат карэспандэнцый ня было надрукована, і, такім чынам, праца часткі саветаў не папала на конкурсны агляд выключна па віне газэт. Выключэньне ў гэтай справе складае газэта „Савецкая Беларусь", якая зрабіла для конкурсу, у параўнаньні з іншымі газэтамі, многа больш, надрукаваўшы 50% усіх конкурсных матар'ялаў.

Якія-ж вынікі мы маем у сэнсе ахвату конкурсным аглядам сэкцый, савету і камісій? Усяго ахоплена па конкурсу 95 саветаў, альбо 6,4% да агульнага ліку іх па БССР; з 95 ахопленых саветаў прыпадае 5 на местсаветы і 5 на нацсаветы; сэкцый гарадзкіх саветаў вынесена на конкурсны агляд 30, што складае 16%. Найменш прадстаўлена на конкурс праца камісій сельскіх і местачковых саветаў, бо ўсяго было вынесена на агляд па конкурсу толькі 5 камісій ці 0,07% да агульнага ліку іх.

Калі ацэньваць конкурс з пункту погляду выкананьня пастаўленых задач, то трэба зрабіць наступны вывад: а) конкурсным аглядам ахоплена недастатковая колькасьць саветаў і асабліва камісій; б) праходжаньне конкурсу на мясцох не набыло масавага характару; в) конкурсныя матар'ялы не заўсёды яскрава адбіваюць канкрэтныя факты дзейнасьці саветаў, сэкцый і камісій; у карэспандэнцыях нявыразна вызначаны тыя прычыны, якія служылі грунтам адмоўных бакоў працы саветаў; г) недастаткова канкрэтна абмалёваны прыкладныя бакі працы саветаў; д) больш-менш выразна адбіты ў конкурсных матар'ялах канкрэтныя факты скрыўленьня клясавай лініі ў працы саветаў.

Ацэньваючы практычную працу саветаў, іх камісій, а таксама і сэкцый гарсаветаў на падставе матар'ялу конкурсу, трэба зрабіць такія агульныя заўвагі:

З ліку вынесеных на конкурсны агляд саветаў (95), камісій (5) і сэкцый (30) праца іх характарызуецца з боку адмоўнага: па 37 саветах, па 6 сэкцыях і па 3 камісіях; ацэнка працы з станоўчага боку дадзена 58 саветам, 24 сэкцыям і 2 камісіям. Адмоўнымі момантамі ў працы значнай колькасьці саветаў вызначаны: парушэньні клясавай лініі, сувязь з кулацтвам, бюракратызм, валакіта, п'янства, нячулыя адносіны да працоўных мас, няўменьне арыентавацца ў справе вырашэньня чарговых гаспадарчых і культурных задач, адрыў ад мас, адсутнасьць калектыўнай працы, выпадкі грубага парушэньня савецкай дэмакратыі і інш.

Характарыстыка працы саветаў прыкладнага зьместу па карэспандэнскіх матар'ялах указвае: аб клясавай вытрыманасьці ў працы, аб шчыльнай сувязі саветаў з беднатою і працоўнымі масамі, аб разгорнутасьці масавай працы ў гэтых саветах і ажыцьцяўленьні лёзунгу аб крытыцы і самакрытыцы, аб разгорнутасьці шырокай гаспадарчай і культурнай працы ў вёсцы, аб уменьні саветаў правільна ўяўляць усе чарговыя задачы партыі і ўлады і правільна вырашаць іх практычна.

Праца камісій сельскіх і мястэчковых саветаў слаба адбіта ў канкрэтных матар'ялах як у сэнсе колькасьці ахопленых аглядам камісій, так і па зьместу матар'ялаў, характарызуючых працу іх. Калі-ж улічыць тыя заўвагі аб працы камісій, якія вызначаны ў карэспандэнцыях, то праца камісій, малюецца ў такім выглядзе: камісіі сваю працу разгарнулі недастаткова; актыў, асабліва ў вёсцы, слаба ўцягваецца ў працу камісій і праца камісій вельмі часта зводзіцца на дробязі; плянавасьці ў працы няма; пасяджэньні адбываюцца ў большасьці выпадкаў рэдка і нерэгулярна; колькасьць камісій, якія працу сваю наладзілі так, што сапраўды зьяўляюцца памоцнікамі саветаў у працы і служаць школаю практычнага выхаваньня актывістаў-сялян, у агульным ліку іх складаюць яшчэ меншую частку.

Дзейнасьць сэкцый гарадзкіх саветаў, вынесеных на конкурсны агляд, у пераважнай большасьці характарызуецца ў тым сэнсе, што сэкцыі ў даны пэрыяд часу сталі цэнтрам практычнага ўдзелу шырокіх колаў рабочых і іншых працоўных мас гораду ў савецкім будаўніцтве, разгарнулі плянава-сыстэматычную працу па выкананьню гарсаветам наказаў выбаршчыкаў (камун. сэкцыя Мазырскага гарсавету—55 пасяджэньняў; ею вылучана было 87 камісій). У большасьці сэкцый за пэрыяд працы іх значна павялічыўся склад членаў сэкцый за лік уцягненьня актыву рабочых з прадпрыемстваў і служачых (Віцебская сэкцыя РСІ ўцягнула 55 рабочых з вытворчасьці).

Дзеля далейшага палепшаньня працы саветаў, камісій і сэкцый, згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР, вызначана прэміраваць за лепшую пастаноўку арганізацыйна-масавай і гаспадарча - культурнай працы наступныя лепшыя саветы, сэкцыі і камісіі:

а) *2-ю прэмію—Гіжанскаму* с/с, Магілеўскае акругі, *Вушацкаму м. нац./с* Полацкае акругі, *Камунальнай сэкцыі Менскага Гарсавету, Сэкцыям Нарасьветы Гомельскага і Бабруйскага Гарсаветаў, К/асьветнай сэкцыі Сухараўскага* с/с, Магілеўскае акругі.

б) *3-ю прэмію—Астапенскаму* с/с, Аршанскае акругі, *Ручаеўскаму* с/с, Гомельскае акругі, *Урэцкаму* с/с, Бабруйскае акругі, *Сялішчанскаму* с/с, Віцебскае акругі, *Сёмкава-Гарадзецкаму* с/с, Менскае акругі, *Камунальнай сэкцыі Мазырскага Гарсавету.*

в) *4-ю прэмію—Камунальнай сэкцыі Слуцкага Гарсавету.*

Пад'агульваючы вынікі правядзеньня конкурсу на лепшую сэкцыю гарсавету, лепшы сельскі і мястэчковы саветы з камісіямі, неабходна сказаць і аб тым, як трэба выкарыстаць конкурсныя матар'ялы для палепшаньня працы саветаў, камісій і сэкцый у далейшым.

Перш за ўсё выканкомам неабходна дакладна прааналізаваць усе сабраныя па конкурсу матар'ялы для таго, каб зрабіць вычэрпваючапоўны нарыс становішча працы саветаў, камісій і сэкцый. Для паўнаты гэтага нарысу не пашкодзіць правесьці дадатковы агляд працы некалькіх саветаў, камісій і сэкцый з выездам на месца для абсьледваньня; на падставе вывучэньня як конкурсных, так і дадаткова сабраных матар'ялаў зрабіць райвыканкомам—парайённа, а акрвыканкомам—па акрузе—агульныя вывады, якія адбіваюць сапраўдны стан працы саветаў, і вызначыць канкрэтна-практычныя мерапрыёмствы да палепшаньня працы саветаў, камісій і сэкцый на будучы час. Як вывады, так і практычныя прапановы належыць абгаварыць на шырокіх пленумах выканкомаў.

Пад'агульваючы конкурсныя матар'ялы, выканкомы павінны дакладна падабраць усе характэрныя факты як добрых бакоў працы, так і адмоўных і шырока папулярызаваць сярод працаўнікоў саветаў на пленумах, нарадах і г. д. тыя станоўчыя прыклады, якія неабходна перанесьці ў практыку ўсіх саветаў, сэкцый і камісій, адначасова спасылаючыся на канкрэтныя факты адмоўнага характару ў працы саветаў, выяўленых у часе конкурсу, праінструктаваць працаўнікоў саветаў аб недапушчэньні імі ў практычнай працы адпаведных адмоўных фактаў.

Надта карысна было-б, каб выканкомы надрукавалі ў форме брашуры-масоўкі матар'ял, што адбівае працу лепшага ў акрузе савету, камісіі і сэкцыі, і забясьпечылі гэтаю брашуркаю-масоўкаю ўсе саветы, сэкцыі і камісіі.

**А. Лукашэвіч.**

# Арганізацыйна-масавая праца Шацкага і Навасёлкаўскага саветаў.

(Меншчына).

## Асьвятленьне савецкае дэмакратыі.

*Дырэктывы* Савецкіх органаў па ажыцьцяўленьню савецкай дэмакратыі ў часьці разгортваньня крытыкі і самакрытыкі працы сельсавету, сыстэматычнай справаздачнасьці савету і паасобных дэпутатаў перад выбаршчыкамі, адкліканьне дэпутатаў і інш. практычнага ажыцьцяўленьня ня амаль што маюць. Гэтыя дырэктывы прымаюцца „да ведама“ і ўсё ў гэтым.

У выніку справаздачнасьць прэзыдыумаў с-сав. і паасобных дэпутатаў (далёка ня ўсіх) на працягу 2-х летняга паўнамоцтва ставілася толькі адзін раз перад новымі выбарамі. Зразумела, што пры такіх умовах ня прыходзіцца гаварыць аб плянавым правядзеньні справаздач.

Яўка членаў савету на пленарныя пасяджэньні слабая (ад 42 да 60% Навасёлкаўскі і Шацкі с-сав.) і актыў у працу ўцягнут таксама слаба, што сьведчыць аб недастатковай выхаваўчай працы як сярод членаў савету, так і актыву.

Возьмем працу арганізаваных пры савеце камісій. Іх на паперы лічыцца 4-5, але ні адна з іх, калі ня лічыць сельска-гаспадарчай камісіі Навасёлкаўскага савету, якая сясяляла адзін раз, не працавала. Склала плян і далей гэтага справа не пайшла. У чым-жа тут справа? Трэба адзначыць, што галоўнай прычынай, якая па шкодзіла наладзіць працу камісій,зьяўляецца поўная неасьвядомленасьць асноўных работнікаў саветаў аб задачах камісій і мэтах іх працы і атсутнасьць практычнай дапамогі з боку РВК па пытаньнях арганізацыі працы камісіяў.

Прыклад: сельска-гаспадарчая камісія Навасёлкаўскага савету, якая кіравалася былым старшынёй с-сав., у сваёй пастанове аб разьмеркаваньні паміж сялянамі зямлі запаснага фонду зьвяртаецца непасрэдна у РВК, без папярэдняга разгляду прэзыдыумам с-савету.

Праца пленумаў і прэзыдыумаў не наближана да насельніцтва, тыя і другія праводзяцца выключна ў цэнтры с-савету. Гэта таксама вялікі недахоп, які перашкаджае ўцягваць у працу масу, асабліва калі прыняць пад увагу значную адлегласьць насельных пунктаў ад савету да 8—11—12 вёрст.

Зусім рэдкія выступленьні з крытыкай працы таго ці іншага супрацоўніка ўстановы, а, напрыклад, кіруючымі работнікамі Навасёлкаўскага с-сав. (мінулага складу) ужываўся такі мэтад: „што я зраблю, дык ніхто не перарабіць“. Гэткі „мэтад“ прывёў да хабараў, прысваеньня падатковых грошай і скончыўся судовым працэсам. На прыкладзе ўсяго гэтага відна, што крытыка і самакрытыка зусім яшчэ не разгорнута.

Таксама і рэвкамісіі, як органы грамадзкага кантролю, праяўляюць малую ініцыятыву; рэдка ідуць далей рэвізіі падатковых сум, сум па самаабкладаньні і то не часьцей аднаго разу ў год. Справаздачы свае ставяць таксама толькі перад новымі выбарамі.

Ва ўзаемаадносінах сельсавету з насельніцтвам назіраецца значная валакіта і бюракратызм, што, зразумела, вельмі шкодна адбіваецца на якасьці абслугоўваньня насельніцтва і ня менш шкодна на аўтарытэце савету. Галоўныя прычыны валакіты і бюракратызму, апрача суб‘єктыўных момантаў, якія часта наглядаюцца, у недастатковым вопыце кіруючага складу савету, асабліва па зямельных пытаньнях, у слабым уяўленьні імі савецкага заканадаўства, а таксама палажэньняў і інструкцыі вышэйстаячых органаў. Усё гэта прыводзіць да таго, што насельніцтва па 2—5 месяцаў, а то і больш чакаюць вырашэньня заяў; нярэдкі выпадкі, калі адказаў і зусім ня бывае; выканаўчыя лісты ляжаць бяз руху па 2-3 і 4 гады (Навасёлкаўскі с-сав.); насельніцтва не заўсёды атрымоўвае ад с-сав. вычэрпваючы адказ па сваёй справе, а часта даюцца адказы абы толькі „адвязацца“.

Па ўсякіх зваротах насельніцтва саветам абавязкова патрабуецца пісьмовая заява, што ў умовах вёскі не заўсёды можа быць выканана і ва ўсякім разе зьвязана з валакітай. Можна правесьці цэлы шэраг прыкладаў валакіты з боку с-с. але спынімся на некалькіх.

„У сьнежні 1928 г. гр. Савайтан Е. падае ў Навасёлкаўскі с-сав. заяву аб няправільным падзеле гаспадаркі ў 3 дзесяціны і патрабуе яе аб‘яднаньня; па заяве да мая месяца 1929 г. нічога яшчэ ня зроблена. З кастрычніка 1928 па май 1929 г. старшыня Навасёлкаўскага Камітэту ўзаемадапамогі ня даў адказу на артыкул у газэце аб няправільным падзеле сенажаці і г. д.

## Кіраваньне агульнымі сходамі.

Калі ў некаторых паасобных выпадках (самаабкладаньне і інш.) с/сав. кіруе сходамі сялян, то ва ўсіх іншых выпадках гаспадарча-культурнага будаўніцтва, кіраўніцтва сходамі адсутнічае. Не гаворачы ўжо аб тым, што няма ніякай плянавасьці ў правядзеньні сходаў, зусім не практыкуецца падрыхтоўка да іх, падбор пытаньняў, папярэдняя прапрацоўка іх саветам; у выніку ставяцца непрадуманыя пытаньні і, зразумела, комкаюцца. Пастановы сходаў разглядаюцца таксама несваечасова і з вялікім спазьненьнем, што прыводзіць да несваечасовага і неадпаведнага рэагаваньня на пастановы сходаў з боку прэзыдыуму с/сав. Адсюль нярэдкі выпадкі скрыўленьня палітыкі савецкае ўлады ў дачыненьні будаўніцтва на вёсцы, клясавай лініі і інш. Так, 16/II—28 г. агульны сход вёскі Люці, Навасёлкаўскага с/сав., разглядзеўшы пытаньне аб разьмеркаваньні лесаматар‘ялаў, пастанаўляе—„разьмеркаваць лес па-роўну, бо кожнаму патрэбен лес“. Гэту пастанову, як няправільную, с/сав. адмяніў 21/IV, калі лес быў ужо высечан і вывезен.

Прэзыдыум таго-ж с-сав. праз 2 м-цы пасьля сходу грамадз. хут. Самін адмяняе без усялякай матывіроўкі пастанову аб калгасах, у якой гаворыцца: „паколькі дзяржава імкнецца к таму (мабыць, да калектывізацыі), просіць вышэйшыя органы аб прысылцы земляўпарадкаваццеля для вытлумачэньня пляна ўвядзеньня калектываў; за каляктыў—1, супроць—23“.

Гэткая сыстэма кіраваньня сходамі яскрава гаворыць аб тым, наколькі сходы *аўтарытэтны* і як могуць *выконваць* іх *пастановы*.

Адным з момантаў, які паніжае аўтарытэтнасьць рашэньняў сходаў, зьяўляецца і тое, што, апрача сходаў па перавыбарах, у большасьці агульны процант яўкі на сходы зусім нізкі; амаль ва ўсіх выпадках на сходы зьяўляецца адзін прадстаўнік ад двара—мужчына; *жанчыны пакуль што вельмі рэдкія ўдзельнікі сходаў.*

Вельмі часта пастановы сходаў адбіваюць думкі кулацкай і замож-

най часткі вёскі, кіраваньне сходамі, асабліва сходамі лесакарыстацеляў, часцей усяго знаходзіцца ў руках заможных.

Трэба адзначыць, што найбольшая актыўнасьць па ўсіх пытаньнях гаспадарчага і культурнага будаўніцтва *праяўляецца заможнай часткай і серадняками*. Бедната пасыўна ва ўсіх тых пытаньнях, якія папярэдня асобна з імі не прапрацоўваліся. Члены с-сав. хоць і галасуюць у большасьці з беднатой, але ў спрэчках свае думкі ня выказваюць.

Усе дырэктыўныя і кіруючыя матар'ялы па пытаньнях кіраваньня сходамі прымаюцца с-сав. „да ведама" і ў практычнай працы амаль што не праяўляюцца, і не заўсёды нават прачытваюцца. Усе гэтыя недахопы адносяцца да працы старога складу с-сав., але пакуль, што ня відаць належнага кіраваньня сходамі і з боку новага складу.

### Кіраваньне каапэрацыйнымі арганізацыямі.

Пытаньнямі каапэрацыі с-с. амаль сім не займаліся і ня ў курсе іх работы. Як ідзе каапэрыраваньне беднаты і наогул насельніцтва на тэрыторыі савету, наколькі насельніцтва ахвачана каапэрацыяй—савету невядома. Каапэраваньне насельніцтва наогул ідзе ня кепска (па Навасёлкаўскаму савету каапэрыравана 63,3% і Шацкаму—66,2%); але калі затрымацца асобна на каапэраваньні беднаты, то яно недастаткова (па Навасёлкаўскаму с-сав. усяго Каапэравана 86,2%, пры чым, па с-г. каапэрацыі толькі 39,2 %, спажывецкай—68,7%; па Шацкаму савету—усяго 83,8% і с-г. каапэрацыі—35,6 %).

Як на агульны недахоп у каапэраваньні беднаты, трэба зазначыць на адсутнасьць увязкі ў працы паміж камітэтам узаемадапамогі, каапэрацый і с-саветам.

Каапэраваньне сераднякоў праведзена таксама недастаткова (у сярэднім па Навасёлкаўскаму савету—на 68 %, пры чым, па с-г. каапэрацыі—29,3 %).

Каапэратыўны актыў—упаўнаважаныя і члены крамных камісій, за адсутнасьцю кіраваньня с-савету, ніякай работы на вёсцы не вядуць. Загадчык аддзяленьня Навасёлкаўскага спажывецкага т-ва, напрыклад, ня ведаў аб існаваньні даўно абранай крамнай камісіі.

Асабліва выдзяляюцца каапэраваньнем пасялковыя гаспадаркі, процант якіх значна вышэй адпаведных груп гаспадарак вёскі.

За фондавыя сродкі каапэруецца выключна бедната і слабыя серадзякі. Аднак, ёсьць выпадкі і няправільнага выдаткаваньня фонду: напрыклад, не каапэрыраваны бядняк-інвалід в. Загай Навасёлкаўскага с-сав. Ёсьць такія выпадкі і па Шацкаму с-сав.

Назіраюцца такія выпадкі скарыстоўваньня каапэрацыйных кніжак беднаты кулакамі і заможнымі.

### Кіраўніцтва камітэтамі ўзаемадапамогі.

Пытаньні камітэту ўзаемадапамогі ў працы с-сав. таксама не займаюць належнага месца. Навасёлкаўскі с-сав. за 1928 г. заслухаў адзін толькі раз даклад к-ту і ніякіх амаль зазначэньняў па рабоце к-ту ня даў. Усе камітэцкія справы ў большасьці вырашаюцца старшынёй к-ту, без узгадненьня з с-саветам. Пленум і прэзыдыум к-ту зусім не працуюць, калі ня лічыць Шацкага местачковага к-ту, дзе праца патроху ідзе. Справаздачнасьць перад членамі ня ў модзе, а то і зусім ня бывае, ня гледзячы нават на патрабаваньне справаздач асобнымі вёскамі (Навасёлкаўскі с-сав.), або калі часамі і ставіцца, дык без усялякай падрыхтоўкі (Шацкі с-сав.). Што яшчэ патрэбна адзначыць, дык гэта тое, што праца к-таў значна ажывілася як у частцы павялічэньня грашовых сродкаў, шляхам сысканьня сяброўскіх узносаў і нядоімак мінулых гадоў, так і дачы дапамогі бяднейшаму насельніцтву насеньнем і часткова грашыма.

С. Яцкоў.

---

# Праца Рудзенскага с|савету.

(Сьмілавіцкі раён, Менскай акругі).

Наш сельсавет знаходзіцца на ст. Рудзенск Заходняй чыгункі, у адлегласьці 20 клм. ад раённага цэнтру і за 40 клм. ад Менску. Сельсавет налічвае 29 насельных пунктаў з 6136 жыхарамі, усяго 771 гаспадарка.

Гаспадарка ў большасьці дробная. Ёсьць адзін калгас „Гаспадар", арганізаваны ў гэтым годзе. Пераважная форма вядзеньня гаспадаркі—трохпольная, хаця ёсьць і вёскі з чатырохпольным севазваротам,—п. Рудзенск № 1, п. Рудзенск № 2, Рог, Крыніца і інш.

У гэтым годзе было ачышчана насеньне 112 тон, што складае 100% заданьня, і сабрана попелу 335 пудоў. Па ўсіх вёсках у вясеньня-пасяўную кампанію былі праведзены гутаркі. Мабілізавалі масы пад лёзунгам „за падвышэньне ўраджайнасьці".

На тэрыторыі с/савету існуе спажыўкаапэрацыя, с/г. крэдытнае т-ва і малочная арцель з агульным лікам каля 2.000 пайшчыкаў. 80% насяленьня ахоплена спажывецкай каапэрацыяй, 67% с/гаспадарчай і 18% малочнай арцельлю. У с/с няма ніводнае прыватнае крамы.

Члены сельсавету працуюць здавальняюча, але камісіі (добрабыту, санітарная, с/гаспадарчая, падатковая) працуюць слаба. Аграўпаўнаважаныя зусім ня ведаюць сваіх абавязкаў; праўда, у апошні час, пачынаючы з 23/VI, яны зацікавіліся сваёй справай і сталі працаваць пад кіраўніцтвам агранома і прэзыдыуму с/савету.

Прэзыдыум с/савету зацікаўлен у сваей рабоце і працуе здавальняюча. Уцягваюцца ў працу с/сав. жанчыны. Адна жанчына-вылучэнка Капчык Хадора выбрана ў прэзыдыум с/сав., 4 жанчыны выбраны членамі с/савету.

У сёльсавеце ёсьць 7 пачатковых школ, з якіх Борская і Каробаўская не даюць прыкладу з прычыны неадпаведнасьці настаўнікаў.

Трэба зазначыць, што па Рудзенскаму с/савету на $2^{1}/_{2}$ гаспадаркі выпісваецца адна газэта—гэта вялікае дасягненьне, у якім шмат дапамаглі сялькоры; у гэтым годзе пачалося земляўпарадкаваньне в. Караваева, дзе мае быць арганізаваны калектыў. Таксама будзе земляўпарадкавана в. Раўнапольле, у якой нядаўна згарэла 50 гаспадарак.

Агулам кажучы, Рудзенскі с/сав. працуе здавальняюча, толькі трэба палепшыць масавую працу, якая яшчэ разгорнута слаба.

Герман Фрыд.

# Аб сельскіх бюджэтах.

Калі мы пачытаем існуючае палажэньне пра сельскія саветы (ня прыходзіцца ўжо казаць пра праэкт новага палажэньня, які значна ўмацоўвае становішча сельсаветаў), то заўважым, што сельскія саветы павінны: арганізоўваць лекава-санітарныя ўстановы; аказваць дапамогу сем'ям чырвонаармейцаў і інвалідам; арганізоўваць хаты-чытальні, народныя дамы, бібліатэкі; арганізоўваць пракатныя і злучныя пункты, а таксама рамонтныя майстэрні; трымаць у парадку дарогі, масты, пераправы, гаці і г. д., і г. д. Гэта значыць, што сельскія саветы абавязаны праводзіць цэлы шэраг розных мерапрыемстваў гаспадарчага і культурнага характару, праводзеньне якіх, аднак, немагчыма без наяўнасьці сродкаў. Гэтых сродкаў, як правіла, нашы сельсаветы ня маюць. Толькі вельмі нязначная частка сельскіх саветаў мае свае бюджэты. Зразумела, чаму ў выніку розных абсьледваньняў высьвятляецца амаль заўсёды адсутнасьць прадукцыйнай працы ў сельскіх саветах. Яны ня маюць матар'яльнай базы і, дзякуючы гэтаму, ня могуць разгарнуць сваю культурна-гаспадарчую дзейнасьць, ня могуць, як сьлед, скарыстаць свае правы.

Раёны Беларусі па сваёй тэрыторыі і па колькасьці абслугоўваемага насельніцтва зьяўляюцца буйнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай. Яны аб'яднаюць больш сотні паасобных насельных пунктаў. З гэтае прычыны яны ня могуць і ня маюць магчымасьці самі задавальняць запатрабаваньні ўсіх сваіх паселішчаў або нават сельскіх саветаў. У выніку ўзбуйненьня раёны ўсё больш і больш адыходзілі ад непасрэднага абслугоўваньня паасобных паселішчаў і сваю ўвагу канцэнтравалі, галоўным чынам, на задачах агульна-раённага значэньня.

Зараз, калі месцы перайшлі да практычнага выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, пытаньне аб дачы сельскім саветам сродкаў набывае асабліва важнае значэньне. Нельга дапамагаць справе ўзьняцьця ўраджайнасьці, прымаць удзел у справе сацыялістычнай перабудовы вёскі, ня маючы пры гэтым неабходных сродкаў.

Арганізацыйна-масавая праца сельскіх саветаў, з прычыны адсутнасьці сродкаў у саветах, таксама знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Уцягваць працоўныя масы вёскі ў практычную дзейнасьць саветаў, у працу іх камісій нельга без капейкі грошай. Усе гэтыя меркаваньні яскрава гавораць за тое, што сельскія саветы павінны мець свае самастойныя бюджэты.

У якім-жа становішчы гэта пытаньне знаходзіцца ў сучасны момант? У 1926-27 бюджэтным годзе было ўтворана 13 сельскіх бюджэтаў, у 1927-28 годзе гэта лічба павялічваецца да 61 і ў бягучым бюджэтным годзе сельскіх саветаў, якія маюць свае бюджэты, ужо ёсьць 84. Усё сказанае вышэй аб сельскіх саветах датычыцца і мястэчак, з якіх у 1926-27 г. мелі свае бюджэты 12, у наступным годзе—19 і зараз маюць 24. Сельскі і местачковы бюджэт у 1926-27 годзе складаў у сярэднім 13,5 тысяч рублёў, у 1927-28 г.—16,3 тыс. руб., а зараз назіраецца некаторае зьніжэньне—14,4 тыс. руб. Гэта зьніжэньне тлумачыцца тым, што колькасьць сельскіх саветаў з сваімі бюджэтамі ў 1928-29 годзе павялічылася за лік менш моцных сельскіх саветаў.

Як разьмяркоўваюцца ў бюджэтах выдаткі на розныя галіны працы? Адміністрацыйныя выдаткі займаюць у местачковых бюджэтах 7,7 проц., у сельскіх—11,9 проц.; сацыяльна-культурныя выдаткі ў мястэчках займаюць 73,8 проц., у сельскіх саветах—84,5 проц.; гаспадарчыя—у мястэчках, дзе ёсьць камунальная гаспадарка—18,5 проц., у сельскіх саветах—3,6 проц. Местачковыя саветы зводзяць свае бюджэты са значным перавышэньнем даходаў над расходамі, і гэта перавышэньне ідзе ў раённы бюджэт, а па сельскіх саветах назіраецца дэфіцыт у сярэднім у 15 проц.

Што складае галоўную крыніцу даходаў сельскага савету? Яна пераважна складаецца толькі з розных падатковых адлічэньняў. Гэта, паміж іншым, часта прыводзіцца як аргумант супроць сьмелага ўвядзеньня самастойных сельскіх бюджэтаў. Але тут трэба адзначыць, што ў гэтай справе пэрспэктывы ёсьць і сельскія саветы далей не павінны быць у тым становішчы, у якім яны апынуліся зараз. Пры значнай адлегласьці раённага выканаўчага камітэту і пры адсутнасьці ў сельскіх саветах бюджэтных праваў розная маёмасьць сельскага значэньня паступова пераходзіла і канцэнтравалася ў руках гаспадарчых або грамадзкіх сельскіх арганізацый (напр., у камітэтах сялянскай узаемадапамогі). Возьмем, напр., млыны, кузьні і іншыя прадпрыемствы і камунальную маёмасьць сельскага значэньня і г. д. Гэтая маёмасьць павінна была-б быць крыніцай даходаў сельскіх бюджэтаў, павінна была-б знаходзіцца ў веданьні сельскіх саветаў. Вядома, што толькі на падатковых адлічэньнях, бяз дачы магчымасьці сельскім саветам быць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй тэрыторыі, бяз дачы ім магчымасьці праявіць і ажыцьцёвіць сваю творчую ініцыятыву, яны далёка ня пойдуць, і пытаньне аб пасьпяховым увядзеньні сельскіх бюджэтаў ня будзе разьвязана.

У РСФСР, дзе намечана ў працягу пяці год увесьці абавязкова сельскія бюджэты ва ўсіх сельскіх саветах, у іх веданьні канцэнтруецца маёмасьць і прадпрыемствы, якія маюць мясцовае сельскае значэньне; таксама ў сельскія бюджэты (у прыходную і расходную частку) уключаюцца сродкі, сабраныя па самаабкладаньню, мэтавыя фонды па лясох мясцовага значэньня і інш. Такая пастаноўка пытаньня і ў нас дасьць добрыя вынікі і зробіць пералом у адносінах да сельскіх бюджэтаў. А пералом зрабіць трэба. Калі III сэсія ЦВК БССР VIII скліканьня ў пастанове па дакладу аб масавай працы саветаў пацьвердзіла „дырэктывы Ураду БССР аб павялічэньні ў 1928-29 г. колькасьці сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі, улічваючы тое, што існаваньне самастойных бюджэтаў дапамагае сельскім і местачковым саветам больш пасьпяхова выращаць задачы гаспадарча-культурнага будаўніцтва і больш уцягвае ў работу саветаў і іх камісій батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы“,—дык гэта пастанова Сэсіі была выканана нездавальняючы і іменна таму, што належнай веры ў патрэбу і карысьць увядзеньня сельскіх бюджэтаў няма якраз у тых працаўнікоў, якія павінны ажыцьцяўляць пастанову Сэсіі. Таму Прэзыдыум ЦВК БССР, заслухаўшы даклад НКФ аб увядзеньні сельскіх бюджэтаў і адзначыўшы недастатковы тэмп іх увядзеньня, даручыў НКФ, пры дачы акруговым выканаўчым камітэтам дырэктыў па складаньні мясцовых бюджэтаў на 1929-30 г., паказаць на неабходнасьць утварэньня па 2—3 самастойных сельскіх бюджэтаў у кожным раёне з тым, каб

агульная колькасьць сельскіх бюджэтаў у БССР складала ня менш 250. Адначасова з гэтым Прэзыдыум ЦВК даручыў акрвыканкомам арганізаваць у 1929-30 г. ва ўсіх местачковых саветах самастойныя местачковыя бюджэты. Тыя весткі, якія ўжо зараз ёсьць ад акруг, сьведчаць аб тым, што на гэты раз дырэктыва Прэзыдыуму ЦВК будзе выканана цалкам.

Аршанскі АВК пастанавіў з 1-га кастрычніка 1929 г. увесьці самастойныя бюджэты ва ўсіх местачковых саветах і ў кожным раёне па 2 самастойных сельскіх бюджэты.

Цяпер адносна самага слова „самастойныя" бюджэты. Сапраўднай самастойнасьці сельскія і местачковыя саветы ня маюць. Ёсьць сельскія бюджэты, але няма сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі. Тут мы ня будзем гаварыць аб парадку складаньня бюджэту: аб тым, што ў большасьці бюджэты складаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, што сельскія саветы іх часта не абгаварваюць на сваіх прэзыдыумах і яшчэ часьцей не абгаварваюць на пленумах і г. д.

Скажам толькі аб самым выкананьні бюджэтаў. Сваёй касы сельскія саветы ня маюць, і грошы іх захоўваюцца ў касе райвыканкомаў. Грошы адпускаюцца не па асыгноўках сельскага савету, а па асыгноўках РВК, куды сельскія саветы павінны зварачвацца за іх атрыманьнем. Выходзіць, што сельскі савет зьяўляецца гаспадаром толькі на паперы. Частку гэтых недахопаў можна зьнішчыць на месцох, а частку прыдзецца разьвязваць ў рэспубліканскім маштабе. Трэба зрабіць такі парадак, каб сельскі савет сам распараджаўся сваімі грашыма. Ёсьць у гэтай справе перашкоды: напр., сельсаветы і местачковыя саветы ня маюць сваіх агнятрывалых шафаў, у іх часта дрэнныя памяшканьні, якія ставяць пад пагрозу цэласьць грашовых сум і г. д. Але гэта перашкоды, якіх нельга будзе зьнішчыць. Сельсаветы могуць захоўваць свае сродкі ў касах ашчаднасьці, крэдытных таварыствах. Калі сельскі савет будзе адчуваць сябе самастойным у культурна-гаспадарчай практычнай дзейнасьці, ён будзе больш актыўным, праявіць больш ініцыятывы, і ў яго будзе ахвота працаваць.

Пашырэньне сельскіх бюджэтаў, уключэньне ў іх сродкаў, якія атрымоўваюцца ад правядзеньня самаабкладаньня, узмацненьне бюджэтных правоў сельскіх і местачковых саветаў зьяўляюцца неабходным грунтам для пашырэньня і ўзмацненьня працы нізавых саветаў і вырашэньня стаячых перад імі задач. Саветы атрымаюць магчымасьць кіраваць працай падпарадкаваных ім установаў, прадпрыемстваў і арганізацый. Саветы будуць зацікаўлены адшуканьнем новых крыніц даходаў. Тая акалічнасьць, што зьбіраемыя грошы будуць тут-жа на вачох насельніцтва скарыстоўвацца на мясцовыя патрэбы, будзе мець вялікае значэньне. Гэта зьявіцца моцным стымулам для павялічэньня актыўнасьці насельніцтва ў грамадзкай працы і ў справе адшуканьня новых крыніц даходаў. Сельскія і местачковыя саветы змогуць разгарнуць арганізацыйна-масавую працу і ўцягнуць новыя кадры батракоў і беднякоў у савецкае будаўніцтва.

А. Брушкоў, А. Пятосін.

# Больш увагі справе самаабкладаньня.

**(Магілеўская акруга).**

З шэрагу абглядаў РВК і сельсаветаў заўважана, што праца па самаабкладаньні праходзіць энэргічна толькі тады, калі на мясцох праводзіцца належная падрыхтоўка. У нас-жа бывае часта так, што сялянствам фармальна выносяцца пастановы аб устанаўленьні процэнту сумы самаабкладаньня, а працаўнікі раёнаў і сельсаветаў сядзяць сабе і вусам не вядуць. А сабраць сродкі, скарыстаць гэтыя сродкі як належыць, каб ад скарыстаньня іх атрымаўся належны эфэкт, з гэтым „можна і пачакаць". Так разважае шмат хто з працаўнікоў раёну і асабліва сельсаветаў.

Канкрэтна, у Крычаўскім і Касьцюковіцкім раёнах справа стаіць так: прынятыя сходамі сумы самаабкладаньня не раскладваліся месяцамі; асобныя сельсаветы зацьвярджаюць самаабкладаньне ў большым размеры, чым прынялі сходы; справаздачы аб паступленьні сродкаў і іх выдаткаваньні перад насельніцтвам, а таксама і перад вышэйстаячымі органамі не наладжваліся; сабраныя сродкі ляжаць па кішэнях у старшынь саветаў, а падчас і ў членаў (па Міхаевіцкім с/с. каля 350 руб. знаходзіцца на руках у членаў сельсавету). Адсюль вынікаюць растраты і прысваеньні (у былога старшыні Бельскага с/с Сотнікава ёсьць нястачы каля 150 руб.; старшыня Зарубіцкага с/с прысвоіў 30 руб. з атрыманых ад спажывецкай каапэрацыі процантаў ад унесеных сум самаабкладаньня). Разам з гэтым прынятыя сумы своечасова не зыскваюцца (Крычаўскі раён зыскаў 78 %, Касьцюковіцкі—84 %) і ў большасьці запазычанасьць ліччыцца за заможнай і серадняцкай часткай насельніцтва. Будаўніцтва на сродкі самаабкладаньня, як і нагогул, пачынаецца са значным спазьненьнем, без усялякага тэхнічнага нагляду і плянаў.

У выніку большасьць сродкаў своечасова не скарыстоўваецца. Так, Касьцюковіцкі раён ад сабранай сумы скарыстаў 24 %, а Самацэевіцкі с/с скарыстаў ад прынятай сумы ў 2421 руб. толькі 79 руб.; у Крычаўскім раёне з паступіўшых 16.386 руб. скарыстана—4.384 р. Часта сродкі скарыстоўваюцца не па прызначэньні. Рэўкамісіі-ж справай скарыстаньня сродкаў самаабкладаньня амаль ня цікавяцца. З боку РВК кантроль таксама адсутнічае. Такія недахопы амаль што ў кожным раёне. Гэта выклікае з боку сялян шмат нараканьняў і перашкаджае праводзіць паўторнае самаабкладаньне. Райвыканкомам, сельсаветам і рэўкамісіям неабходна справе самаабкладаньня зьвярнуць больш увагі. Трэба пасьля прыняцьця самаабкладаньня, не затрымліваць справу з раскладкай і ні ў якім разе не зацьвярджаць самаабкладаньне вышэй сумы, вызначанай агульным сходам. Трэба рэгулярна даваць вышэйстаячым органам справаздачнасьць аб сабраных і скарыстаных сродках; асабліва добра павінна быць пастаўлена справаздачнасьць перад насельніцтвам, каб апошняе ведала, куды і на што ідуць іх сродкі. Трэба перыядычна праводзіць рэвізіі і цікавіцца тым, як сельсаветы скарыстоўваюць сродкі, які эфэкт атрымліваецца ад будаўніцтва і ці па прызначэньні скарыстоўваюцца сродкі.

Вышэйшыя органы ўлады дырэктыў па гэтым пытаньні далі шмат. Трэба толькі, каб РВК, сельсаветы і рэўкамісіі зьвярнулі максымум увагі на іх выпаўненьне і ў штодзённай сваёй працы больш цікавіліся справаю самаабкладаньня.

Я. М. К.

# Дасягненьні і недахопы ў працы райвыканкомаў

## Бабруйскай акругі.

За апошнія 3—4 месяцы інструктарскім апаратам Бабруйскага АВК былі абсьледваны Стара-Дароскі, Слуцкі і Жлобінскі райвыканкомы. Ня маючы магчымасьці падрабязна асьвятліць усю дзейнасьць гэтых РВК, спынімся на асобных найбольш важных вучастках іх работы.

### Зямляўпарадкаваньне.

Зямляўпарадкаваньне да гэтага часу ў гэтых раёнах адбываецца даволі марудна. Так, калі па ўсёй БССР на 1 кастрычніка 1928 г. было зямляўпарадкавана 44 проц. агульнай плошчы, якая падлягае зямляўпарадкаваньню, то ў Старадароскім раёне зямляўпарадкавана толькі 23 проц., у Слуцкім—32 проц. і ў Жлобінскім—36,7 проц.

Побач з гэтым у Слуцкім раёне ў практыцы мінулых год былі выпадкі парушэньня ўстаноўкі партыі і савецкай улады на пераход к пасёлкавым формам зямлякарыстаньня. Так, напрыклад, з 660 гаспадарак, зямляўпарадкаваных там у 1927 г., на пасёлкі перайшло толькі 206 гаспадарак на плошчы у 2,060 гэктараў, тагды як на хутары перайшлі 454 гаспадаркі на плошчы у 4.539 гэктараў.

### Калгаснае будаўніцтва.

Усяго у гэтых раёнах існуе 39 калектыўных гаспадарак, з іх: у Старадароскім раёне—5, Слуцкім—14 і Жлобінскім—20. З гэтага ліку за 1928 год арганізавана: у Старадароскім раёне—4 калектыўных гаспадаркі, Слуцкім—6 і Жлобінскім—8.

Сацыяльны склад сяброў калектыўных гаспадарак пераважна бядняцкі.

Эканамічнае становішча большасьці калектыўных гаспадарак покуль што застаецца слабым. Абслугоўваньне раённай агранаміяй хоць і палепшылася, але зьяўляецца невыстарчальным.

Як становучае зьявішча, неабходна адзначыць, што некаторыя калектыўныя гаспадаркі дасягнулі значнага посьпеху ў галіне ўраджайнасьці. Напрыклад, калектывы „Расьсьвет" і „Вольная праца" (Жлобінскі р.) зьбіраюць цяпер у сярэднім 90 пудоў жыта з гэктару, тагды як у вакольнага сялянства ўраджай жыта ў сярэднім дае 40 п. з гэктара.

Дырэктывы ўраду аб перадачы калектыўным гаспадаркам садова-гародніх гаспадарак выпаўнены поўнасьцю. Усяго ў выніку выпаўненьня гэтага мерапрыманьня імі перадана 13 такіх гаспадарак: 6 па Жлобінскім раёне і 7—па Слуцкім.

### Спэцыяльныя віды сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

За ўвесь час на тэрыторыях агледжаных раёнаў арганізавана 98 розных вытворчых аб'яднаньняў, апрача калектыўных гаспадарак, у тым ліку ў Старадароскім раёне—12, Слуцкім—33 і Жлобінскім—53. Найбольш часта сустракаюцца мэліарацыйныя таварыствы—33 па трох раёнах, малочныя—13, тарпяныя—21, машынныя—10, агнятрывалыя—9, жывёлаводныя—8.

З іншых відаў аб'яднаньняў налічваецца: насеннаводных—5, пчалярных — 3, пасёлкаў-каапэратываў—3 (усе ў Слуцкім раёне), па агульнай апрацоўцы зямлі—1 (таксама ў Слуцкім раёне) і прамыслова-птушачных—1 (у Старадароскім раёне).

Сацыяльны склад гэтых аб'яднаньняў падрахованы толькі па Жлобінскім раёне, дзе ён малюецца наступнымі данымі: з агульнага ліку сяброў таварыстваў (3202 чал.) на долю беднаты прыходзіцца 39,8 пр., серадднякоў—54,3 проц., заможнікаў—5,9 проц.

Працы вытворчых аб'яднаньняў з боку райвыканкомаў зьвяртаецца вельмі мала ўвагі. Няма сталага вучоту колькаснага і сацыяльнага складу сяброў гэтых аб'яднаньняў (апрача Жлобінскага раёну). Калі гаварыць аб вывучэньні пастаноўкі працы ў гэтых аб'яднаньнях, то райвыканкомамі мала што робіцца ў гэтым напрамку.

### Агрыкультурная работа.

Дасягненьні за апошнія 2 гады ў галіне агрыкультурных мерапрыманьняў покуль што нязначныя. Так, калі ўзяць перавод на шматпольле, то паводле прыблізных даных у Старадароскім раёне лічыцца пераведзенымі на шматпольле 957 дзес., Жлобінскім—17,895 гэкт., Слуцкім—8,900 гэкт. Аднак, гэтыя афіцыйныя лічбы агранаміі не адпавядаюць сапраўднаму становішчу, бо падліку такіх гаспадарак ні ў адным райвыканкоме няма.

Плошча пад тэхнічнымі культурамі штогодна пашыраецца, асабліва па Старадароскім і Слуцкім раёнах, што відаць з наступных даных за 1925 і 1928 г. г.:

Старадароскі р.—1925 г. 737 гэкт., 1928 г. 2453 гэкт. пр. к 1925 г. 332,8
Жлобінскі раён—1925 г. 5272 гэкт., 1928 г. 5885 гэкт. пр. к 1925 г. 107,5,
Слуцкі раён—1925 г. 4804 гэктараў., 1928 г. 10079 гэкт. пр. к 1925 г. 209,8.

Найбольшае павялічэньне даюць кармавыя культуры, як канюшына, віка і сэрадэла, удзельная вага якіх у паказанай вышэй плошчы пад тэхнічнымі культурамі раўняецца па Старадароскім раёне 58,2 проц., Жлобінскім—48,9 проц. і Слуцкім—71,1 проц.

Пасеўная-ж плошча пад лубінам павялічылася толькі па адным Старадароскім раёне з 475 гэктар. у 1925 г. да 985 гкт. у 1928 г.; па Слуцкім-жа раёне яна нават зьменшылася з 389 гэкт. у 1925 г. да 290 гэкт. у 1928 г. Адначасна значна павялічваецца запатрабаваньне на штучнае ўгнаеньне, якое задавальняецца далёка ня ў поўнай меры.

Таксама павялічваецца і ачыстка збожжа. Усяго ў 1928 г. па Слуцкім раёне ачышчана 55.000 пуд., а па Жлобінскім—58,784 пуды.

### Крэдытная і спажывецкая каапэрацыя.

Лік сялянскіх гаспадарак, каапэраваных крэдытнай каапэрацыяй, да агульнай іх колькасьці выражаецца па кожным раёне наступнымі лічбамі: па Старадароскім—25 проц., Слуцкім—37,2 проц. Жлобінскім—43 проц. Па спажывецкай каапэрацыі каапэраваньне дасягае 50—60 проц. Сталых відаў аб сацыяльным складзе сяброў як крэдытных так і спажывецкіх таварыстваў ні ў адным райвыканкоме няма. Таксама няма падліку працы крэдытных т-ваў у галіне крэдытаваньня беднаты. Невыстарчальна праводзіцца і кіраўніцтва па лініі скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты па спажывецкай каапэрацыі. Гэта сьведчыць, што кіраўніцтва з боку райвыканкомаў работай крэдытнай і спажывецкай каапэрацыі праяўлена мала.

### Народная асьвета.

Школьная сетка па раёнах паступова ўзрастае. Так, па Старадароскім раёне яна ўзрасла у параўнаньні з 1925 г. па 11 камплектаў, па Слуцкім раёне—у параўнаньні з 1926 г.—на 5 камплектаў і па Жлобінскім—у параўнаньні з 1927 г. - на 9 камплектаў. Дзяцей школьнага ўзросту ахоплена: па Старадароскім раёне—60,1 проц., Слуцкім—66 пр. і Жлобінскім 72 проц. Сацыяльны склад дзяцей вучняў пераважна—бядняцка-серадняцкі. Даецца некаторая дапамога дзецям беднаты па лініі забясьпечаньня іх падручнікамі. [illegible] некаторых 7-мі годках [illegible] Дарогі) будуюцца [illegible] дзяцей беднаты.

### [illegible]дарчы падатак.

Дзякуючы добрай падрыхтоўцы райвыканкомаў і сельсаветаў да кампаніі сельска-гаспадарчага падатку на 1928-29 год, падлік аб'ектаў ападаткаваньня прайшоў здавальняюча. Падлік даў значнае павялічэньне асобных аб'ектаў ў параўнаньні з 1927-28 г., напрыклад: па пахаці на 12,195 дзес., заліўной сенажаці—на 1.590 дзес., сухадольнай сенажаці—на 10.611 дзес., садох—на 115 дз., буйной рагатай жывёлы—на 3.159 галоў, коняй—на 1.359 галоў, сьвіней—на 11.131 шт., вульлёў—на 2.331 шт. і неземляробчых даходаў—на 316.103 р.

Ад падатку вызвалена па беднасьці: у Старадароскім раёне—36 проц. усіх сялянскіх гаспадарак, па Слуцкім—19 проц. (такі нізкі процант вызваленых тлумачыцца эканамічнай моцнасьцю сялянскіх гаспадарак па гэтым раёне), па Жлобінскім раёне—35 проц. Што датычыцца індывідуальнага ападаткаваньня, то тут былі зроблены памылкі у бок пераабкладаньня некаторых бядняцкіх гаспадарак, але пазьней гэтыя памылкі былі выпраўлены поўнасьцю.

### Самаабкладаньне.

Работа па налічэньні самаабкладаньня выканана ўсімі райвыканкомамі здавальняюча, толькі крыху адстае спагнаньне грошай. Так, к моманту абсьледваньня па Старадароскім раёне лічылася неспагнаных грошай каля 4.000 руб., па Слуцкім—14.000 руб. па Жлобінскім—9.000 руб.

Скарыстаньне сродкаў самаабкладаньня наступнае: па Старадароскім раёне з налічаных 21.039 р. скарыстана 7800 руб. або 37 проц., па Слуцкім з 51.424 р. скарыстана каля 20.000 руб., па Жлобінскім раёне з 51,592 руб. скарыстана 32,849 р. або 63,6 проц., што зьяўляецца невыстарчальным, асабліва па Старадароскім і Слуцкім раёнах.

Буйным недахопам зьяўляецца адсутнасьць кіраўніцтва і тэхнічнага нагляду за сельскім будаўніцтвам, якое праводзіцца на сродкі ад самаабкладаньня. Для зьнішчэньня гэтага недахопу прэзыдыум АВК дазволіў райвыканкомам выдаткаваць 4 проц. ад сумы самаабкладаньня на тэхнічны нагляд за сельскім будаўніцтвам.

### Арганізацыйна-масавая работа.

Плянаваньне работы Жлобінскага і Слуцкага райвыканкомаў значна палепшылася ў параўнаньні з мінулым: складаюцца агульныя гадавыя і месячныя календарныя пляны і праводзіцца пэрыядычная праверка выкананьня плянаў. Што датычыцца Старадароскага райвыканкому, то плянаваньне яго працы пастаўлена нездавальняюча: у агульныя пляны мэханічна ўключаюцца вытворчыя пляны частак РВК і іншых арганізацый раёнаў, усялякія дробязі, якія не падлягаюць непасрэднаму вырашэньню прэзыдыуму РВК, а каляндарныя пляны складаюцца ад выпадка к выпадку; адсутнічае і праверка выкананьня плянаў.

Пленумы райвыканкому праводзяцца таксама рэгулярна—1 раз у паўтара—два месяцы. На пленумах райвыканкому прысутнічаюць заўсёды прадстаўнікі с.-саветаў і розных арганізацый, якія існуюць у раённых цэнтрах. Выязных пленумаў за два гады адбылося: па Жлобінскім раёне—2, па Слуцкім—1, па Старадароскім—1. Такі малы лік выязных пленумаў тлумачыцца пераважна тым, што райвыканкомы ня маюць сродкаў на гэтую патрэбу. Пытаньні, якія разгледжаны пленумамі, маюць пераважна кампанейскі характар (сельска-гаспадарчы падатак, хлеба-загатоўкі, самаабкладаньне і інш.). Падрыхтоўка пытаньняў пленумаў праводзіцца індывідуальна асобнымі працаўнікамі райвыканкомаў па даручэньні прэзыдыумаў. Наогул, масавасьці ў падгатоўцы пытаньняў няма.

Апрача пленумаў райвыканкомаў практыкавалася скліканьне нарад працаўнікоў каапэрацыі і с.-саветаў па пытаньнях хлебазагатовак, самаабкладаньня, сельска-гаспадарчага падатку, страхоўкі і вясеньняй пасеўнай кампаніі, асабліва па Жлобінскім і слуцкім раёнах. Нарад па пытаньнях масавай працы было вельмі мала і то па адным Жлобінскім раёне, дзе адбылося 2 нарады жанчын-грамадчыц і 1 нарада сельскіх рэвізыйных камісій.

Справаздачнасьць райвыканкомаў перад насельніцтвам праводзілася вельмі нерэгулярна. У мінулым годзе, калі рыхтаваліся да перавыбараў саветаў, райвыканкомы пачалі былі праводзіць справаздачнасьць, але ў сувязі з хлебазагатоўчай кампаніяй справаздачнасьць сарвалася.

Кіраўніцтва райвыканкомаў с.-саветамі у галіне правядзеньня розных кампаній ажыцьцяўляецца здавальняюча, але кіраўніцтва масавай работаю саветаў было вельмі мала. Практыка абсьледваньня масавай работы саветаў і заслухоўваньня справаздач дала таксама яшчэ мала станоўчых вынікаў, бо абсьледваньні праводзяцца бяссыстэмна, павярхоўна, а пастановы па справаздачах саветаў адзначаюцца агульнасьцю і малаканкрэтнасьцю.

У выніку, зрушэньня ў арганізацыйна-масавай рабоце саветаў амаль не наглядаецца і яна па ранейшаму застаецца нездавальняючай: адсутнічае плянавасьць у некаторых саветах, прэзыдыум і пленумы склікаюцца нерэгулярна, камісіі амаль усюды бязьдзейнічаюць, жанчыны-грамадчыцы ў практычную работу саветаў не залучаны, справаздачнасьць саветаў перад выбаршчыкамі праводзіцца нерэгулярна і слаба, кіраўніцтва агульнасялянскімі сходамі з боку саветаў праводзіцца не выстарчальна.

Усё гэта гаворыць аб тым, што на будучы час пытаньні палепшаньня арганізацыйна-масавай работы сельскіх саветаў павінны стаць цэнтрам увагі кожнага райвыканкому.

**Сіманоўскі.**

Друкарня БДВ. Галоўлітбел № 595.